

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ, САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ І САВЕТУ ПРАЦЫ І АБАРОНЫ САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

30 красавіка 1924 г. № 4. Арт. 113—157.



ЗЬМЕСТ.

# Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**113. Аб бязмытным і безакцызным пропуску грузаў з-за кардону у адрас камісіі замежнае дапамогі пры Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і іншых арганізацыяў дапамогі.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Бязмытнаму і безакцызнаму пропуску у адрас камісіі замежнае дапамогі пры Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і іншых арганізацыяў дапамогі, сьпіс якіх устанаўліваецца камісіяй замежнай дапамогі водлуг згоды з мытна-тарыфным камітэтам, падлягаюць да 1 студзеня 1925 г. ніжэйнаступныя грузы, дастаўляемыя з-за кардону:

а) дзеля дачы мэдыцынскае дапамогі—грузы, памянёныя у наступных арт. арт. мытнага тарыфу па эўрапэйскаму гандлю, зацьверджанага Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР 8 студзеня 1924 году:

62 п. 3; 77 п.п. 1, 2,3 і 4; 87 п. 5; 88 п. 3 літ. „б" і „в"; 3 арт. 93 п. 4—борная кіслата ачышчаная; 94 п. 2 літ. „б"; 108 п. 5 і увага (апрача цытрынавае і вінна-каменнае кіслот); з арш. 110 п. 1—ляпіс; 112 п. 1 літ. „б", п. 2 літ. „б", п. 3 літ. „а", „б", „в", п. 4 літ. „а" і „б", п. 5, 7, п. 8 літ. „а", „г", „э", „ж", „л", „м", п. 9; 113, 115 (апрача эфіраў для прыгатаваньня цукеркаў і пахнючых напіткаў); 120 (апрача космэтычнага мыла); 169; 3 арт. 170 п. 1 акуляры: 3 арт. 173 п. 1 літ. „в"—крэслы на калёсах дзеля хворых; 182 п. 3.

Увага 1. Грузы пералічаныя у арт. 88 п. 3 літ. „б" і „в", прапушчаюцца у парадку гэтае пастановы водлуг сьпісаў, загадзьдзя улагоджаных камісіяй замежнай дапамогі з мытна-тарыфным камітэтам.

Увага 2. Грузы, пэралічаныя у арт. 113, прапушчаюцца у парадку гэтае пастановы водлуг сьпісаў, улагоджаных камісіяй замежнай дапамогі з народным камісарыятам аховы здароўя адпаведнае саюзнае рэспублікі.

б) Для дачы дапамогі дзіцячым прытулкам, яслям, студэнтам, вучоным і хворым у бальніцах грузы, памянёныя у наступных артыкулах мытнага тарыфу; 2 п. 1; 13; 20; 22; з артыкулу 24 п. 1—какао цёрты, з цукрам і бяз цукру, п. 4; 57 п. 1, 2 і 3; 120 (апрача космэтычнага мыла): 150 п. 2; з артыкулу 158 п. 1 (нажы і відэльцы нескладаныя, ножніцы, абцужкі і іншы асобна неназваны нажавы тавар); 187; 188; 189; 192 п. 2; 193; з артыкулу 194 вашчанка і цырата усялякая і вырабы з іх, апрача асобна названых; 199; 205 п. 1 літ. „б"; з арт. 209 п.п. 1, 2, 3 і 4, бялізна і верхняя адзежа, якія былі у карыстаньні; з увагаў агульных да арт. арт. 183—209—коўдры; 212 п.п. 1 і 2.

Увага 1. Грузы, пералічаныя у артыкулах; 192 п. 2, 198, 194 і 205 п. 1 літ „б",—прапушчаюцца у парадку гэтае пастановы водлуг контынгэнтаў, устаноўленых камісіяй замежнае дапамогі па улагоджаньню з мытна-тарыфным камітэтам.

Увага 2. Грузы, пералічаныя у артыкулах: 120: 158 п. 1; 187; 188 і 189 прапушчаюцца у парадку гэтае пастановы загадам мытна-тарыфнага камітэту, водлуг асобные кожны раз зробленае заявы камісіі замежнае дапамогі.

в) Для дачы акадэмічнае дапамогі вышэйшым навуковым установам, школам, дзіцячым прытулкам—грузы, памянёныя у наступных арт. арт. мытнага тарыфу: з арт. 161—інструманты ручныя дзеля рамёслаў; 169 п.п. 1 і 2 і увага 1 у канцы артыкулу; 177—п.п. 1, 2, 3, 4, 8, 9, 10 і з п 12—папера сьветаадчуваючая; 178; 216.

г) Дзеля дачы вытворчае дапамогі—грузы, памянёныя у наступных арт. арт. мытнага тарыфу: 40; 41; 62 п. 5 літ. „а" і „б"; п. 6; 124; 157 п. 1 і 2; 150 п. 8; з арт. 160 п. 1—косы і сярпы; 167; 173 п. п. 2, 3, 4, 6 і 7; 88 п. 5.

Увага. Грузы, пералічаныя у арт. 88 п. 5, прапушчаюцца у парадку гэтае пастановы загадам мытна-тарыфнага камітэту, водлуг асобнае кожны раз заявы камісіі замежнае дапамогі.

**2.** Грузы, заказаныя за-кардонам паказанымі у арт. 1 арганізацыямі да 1 лютага 1924 г., прапушчаюцца водлуг пасьведчаньняў камісіі замежнае дапамогі бязмытна і безакцызна, на падставе пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 26 лютага 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 16, арт. 209).

**3.** Аб усіх грузах, адтрымліваемых бязмытна і безакцызна камісіяй замежнае дапамогі і іншымі арганізаямі дапамогі (арт. 1 гэтае пастановы) мытныя установы паведамляюць адпаведным органам народнага камісарыяту грашовых справаў і народнага камісарыяту унутраных справаў належнай саюзнае рэспублікі, з мэтаю наглядзаньня за правідловым скарыстаньнем пералічаных грузаў.

**4.** Мясцовыя органы народнага камісарыяту замежнаго гандлю, народнага камісарыяту грашовых справаў і народнага камісарыяту унутраных справаў належнае саюзнае рэспублікі у выпадках выяўленьня прадажы атрыманых цязмытна і безакцызна у парадку гэтае пастановы рэчаў, паведамляюць аб гэтым адпаведнай мытнай ці падатковай установе, дзеля абвінавазаньня устаноўленым парадкам, як за контрабанду.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

2 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 52 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 сакавіка 1924 г.

**114 Правілы аб льготах па сямейнаму становішчу для грамадзян, прызываемых на сапраўдную ваенную службу у 1924 г.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць**:

**1.** Для грамадзян, прызываемых на сапраўдную ваенную службу у 1924 г. устанаўліваюцца льготы па сямейнаму становішчу, выяўляючыяся у звальненьні прызываемых грамадзян ад праходжаньня сапраўднае ваеннае службы у мірны час і замене яе невайсковым ваенным навучаньнем.

**2.** Замена сапраўднае ваеннае службы невайсковым ваенным навучаньнем дзеля грамадзян, якія маюць права на льготу па сямейнаму становішчу (льготных) можа мець месца толькі у тым выпадку, калі патрэба рабоча-сялянское чырвонае арміі, рабоча-сялянскага чырвонага флёту і войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня у папаўненьнях поўнасьцю пакрываецца тымі з падлягаючых прызыву і прызнаных годнымі да ваеннае службы грамадзян, якія ня маюць права на льготу па сямейнаму становішчу (бязльготнымі).

**3.** Адпаведна з арт. 2, вызначэньне таго, у якой чарговасьці льготныя могуць быць прыняты, у выпадку необходнасьці, на сапраўдную ваенную службу, а таксама каму з бязльготных сапраўдная ваенная служба можа быць заменена невайсковым ваенным навучаньнем, робіцца праз жараб'еўку паміж падлягаючымі прызыву грамадзянамі.

**4.** Устанаўліваюцца чатыры разрады льготаў па сямейнаму становішчу:

Льгота першага разраду—для адзіннага здольнага да працы сябры сям'і, калі ёсьць тры і больш непрацаздольных сябры сям'і, утрымліваемыя працаю прызываемага;

Льгота другого разраду—для адзіннага здольнага да працы сябры сям'і, калі ёсьць два непрацаздольных сябры сям'і, утрымліваемыя працаю прызываемага;

Льгота трэцяга разраду—для адзіннага здольнага да працы сябры сям'і, калі ёсьць адзін непрацаздольны сябра сям'і, утрымліваемы працаю прызываемага;

Льгота чацьвертага разраду—для здольнага да працы сябры сямьі і калі ёсьць у ёй другі працаздольны сябра, пры умове, што працаю або двух названных працаздольных сябраў сям'і утрымліваюцца чатыры і больш непрацаздольных сябраў сям'і.

**5.** Правам на льготы па сямейнаму становішчу не карыстаюцца грамадзяне, адносна якіх будзе устаноўлена, што яны пыталіся ухіліцца ад паступленьня на сапраўдную ваенную службу праз калечаньне сябе ці іншы абман.

**6.** Льготы па сямейнаму становішчу не павінны давацца усім тым грамадзянам, адносна якіх прызыўнымі камісіямі будзе устаноўлена, што прызыў іх на сапраўдную ваенную службу ня лішыць застаючыхся непрацаздольных сябраў сям'і сродкаў на жыцьцё.

**7.** Пад словом „сям'я разумеецца роднапрацоўнае аб'яднаньне асобаў розных ступеняў роднасьці, якія жывуць разам і вядуць адну гаспадарку ці жывуць на агульныя сродкі.

Увага 1. Ўваходзячымі у склад сям'і лічуцца так сама і асобы, ўвайшоўшыя у сям'ю праз жаніцьбу ці прымы.

Увага 2. У склад сялянскае сям'і уносяцца таксама і выйшаўшыя часова на працоўны заробак, але ня лічучыяся, на падставе закону, выбыўшымі з складу двара.

Увага 3. У склад сям'і не павінны унасіцца, пры вызначэньні правоў застаўшыхся сябраў на льготу, тыя яе сябры, якія знаходзяцца па прызыву на сапраўднай ваеннай службе, альбо знаходзяцца курсантамі ваенна навучальных устаноў.

**8.** Належнасьць грамадзяніна да сямейна-працоўнага аб'яднаньня вызначаецца водлуг ступені фактычнага удзелу яго у гэтай гаспадарцы, устанаўліваемай дакумантальна ці паказаньнямі сьветак, зацьверджаючымі, што гэты грамадзянін на справе працуе у гэтай гаспадарцы.

**9.** Непрацаздольнымі сябрамі сям'і лічуцца:

а) усе асобы мужчынскага полу узростам да 16 гадоў і старэй 57 і жаночага полу—да 16 гадоў і старэй 50 гадоў.

б) асобы жаночага полу, якія маюць дзяцей да 8 гадоў пры адсутнасьці асобы, якая б магла іх даглядаць;

в) інваліды наступных разрадаў:

1) ня толькі ня здольныя да працы дзеля заработку, але патрабуючыя яшчэ чужой дапамогі дзеля здавальненьня звычайных жыцьцёвых патрэбаў;

2) няздольныя ні да якой працы, якая б дала заработак, але не патрабуючыя сталага догляданьня за сабой.

**10.** Грамадзяне, жадаючыя атрымаць льготу па сямейнаму становішчу, падаюць аб гэтым заяву ці непасрэдна у прызыўныя камісіі пры ваенных камісарыятах, ці у сельскія саветы з дакладным пералічэньнем усіх сябраў сваей сям'і і паказаньнем іх працаздольнасьці ці няздольнасьці, а таксама узросту. Сельскія саветы павінны паступіўшыя да іх сьпісы пасьля праверкі адаслаць зараз жа у прызыўныя камісіі. У выпадку якіх—небудзь наступных зьменаў у складзе сям'і грамадзяне павінны заяўляць аб гэтым у тым жа парадку, непаведамленьне аб з'іначаньні асабістага складу сям'і, ці паведамленьне неправідловых ведаў караецца карным парадкам.

**11.** Права на льготу па сямейнаму становішчу устанаўліваецца для кожнага прызываемага мясцовымі прызыўнымі камісіямі, на падставе дакумантальных довадаў аб складзе сям'і прызываемага.

Дакумантальнымі довадамі лічуцца у адносінах сельскага насельніцтва пасьведчаньні валасных выканаўчых камітэтаў ці сельскіх саветаў, камітэтаў незаможных сялян ( у УССР), рэвалюцыйных камітэтаў і адпаведных ім арганізацыяў; у адносінах гарадзкога насельніцтва—пасьведчаньні, выданыя органамі міліцыі і прафэсыональнымі арганізацыямі. У выпадку сумненьня, прызыўныя камісіі маюць права праверацЬ дакуманты усімі спосабамі, якія найдуць патрэбнымі.

**12.** Пасьля канчатку працы па вызначэньню льготаў, прызыўныя камісіі складаюць для кожнага прызыўнага вучастку прызыўныя сьпісы асобна для грамадзян, карыстаючыхся, на падставе асобна аб тым пастановы

Савету Працы і Абароны, адтэрміноўкамі па адукацыі, і асобна—дзеля ўсіх іншых падлягаючых прызыву грамадзян.

**13.** Грамадзяне, лішоныя права на ваенные навучаньне па сваёй клясавай належнасьці або па іншым падставам, ўносяцца у асобныя сьпісы і у агульныя прызыўныя сьпісы ня ўносяцца.

**14.** Прызыўныя сьпісы зараз жа па іх складаньню вывешываюцца дзеля агульнага агляданьня на двухтыднёвы тэрмін у памешканьнях прызыўных камісіяў і адначасна рассылаюцца валасным выканаўчым камітэтам для вывешываньня. Усім грамадзянам даецца права ці словамі ці на паперы заяўляць прызыўным камісіям аб загледжаных імі у прызыўных сьпісах пропусках і неправідловасьцях. Прызыўныя камісіі павінны разглядзець усе гэткія заявы і вынесьці па ім вырашэньні не пазьней, як за 10 дзён да першага дня прызыву.

**15.** Пастановы прызыўных камісіяў аб льготах могуць быць перагледжаны прэзыдыумамі мясцовых выканаўчых камітэтаў і адпавядаючымі ім органамі ўлады водлуг скаргаў зацікаўленых асобаў або ў парадку нагляду. Скаргі падаюцца абавязкова праз прызыўныя камісіі. Паказаныя скаргі павінны быць разгледжаны і па ім павінны быць вынесены вырашэньні да наступленьня першага дня прызыву. Вырашэньні гэтыя зьяўляюцца канчатковымі.

**16.** Загадзьдзя да пачатку чарговага прызыву Рэвалюцыйны Ваенны Савет Саюзу ССР, на падставе довадаў, які маюцца, аб патрэбе рабоча-сялянскае чырвонае арміі, рабоча-сялянскага чырвонага флёту і войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня у папаўненьнях, устанаўлівае лік грамадзян, падлягаючых прызыву на сапраўдную ваенную службу на ўсім абшары Саюзу ССР і паведамляе яго сваім мясцовым органам дзеля разьмяркаваньня водлуг прызыўных вучасткаў. Нарад, ускладзены на кожны прызыўны вучастак, павінен быць поўнасьцю і безумоўна выканан.

**17.** Дзеі прызыўных камісіяў па прызыву пачынаюцца з жараб'еўкі, якая робіцца аднначасна для усіх унесеных у агульны прызыўны сьпіс па вядомаму прызыўному вучастку грамадзян.

**18.** Лік укладываемых у жараб'евы яшчык нумароў павінна дакладна зьбегацца з лікам унесенных у агульныя прызыўныя сьпісы па вядомаму прызыўнаму вучастку грамадзян.

**19.** Папярэдняя праца па падгатоўцы жараб'еўкі, як: паверка ліку і нумароў укладываемых у яшчыкі жараб'евых білетаў, скручываньне іх, закладка у яшчыкі—робіцца у прысутнасьці выбарных ад прызываемых, па аднаму на кожную уваходзячую ў гэты прызыўны вучастак воласьць.

**20.** Выманьне жарабя робіцца самімі прызываемымі грамадзянамі, якія дзеля гэтага вызываюцца па аднаму у тым парадку, у якім яны занесены у прызыўныя сьпісы. У выпадку адсутнасьці каго-небудзь з прызываемых. жарабя за яго вымаецца старшынёй прызыўной камісіі.

**21.** Жэрабя вымаецца для кожнага прызываемага толькі адзін раз за ўвесь час праходжаньня ім ваеннай службы.

**22.** Па закончаньні жараб'еўкі прызыўныя камісіі приступаюць да агляданьня і прыёму грамадзян на сапраўдную ваенную службу, пачынаючы з грамадзян, не карыстаючыхся правам на льготу і у парадку іх нумароў па жэрабю, пачынаючы з меньшага. У выпадку недахвату бязльготных, для выпаўненьня нараду прыймаюцца грамадзяне з ліку адтрымаўшых права на льготы па 4-му разраду у парадку іх нумароў па жэрабю, таксама пачынаючы з меньшага нумара. У выпадку недахвату гэтых грамадзян, прыцягваюцца да прыёму у тым жа парадку грамадзяне, маючыя права на льготу па 3-му разраду, затым паступова па 2-му і 1-му разрадам.

**23.** Грамадзяне, своечасова зьявіўшыяся да прызыву і не папаўшыя у прызыўныя сьпісы па іх віне, зьберагаюць за сабой права на льготу, але уносяцца без жараб'еўкі першымі у сваім разрадзе.

У тым выпадку, калі такія грамадзяне прапушчаны у прызыўных сьпісах не па сваей віне, яны прымаюць удзел у жараб'еўцы на агульных падставах.

**24.** Грамадзяне, зпазьніўшыяся да прызыву без уважлівых прычын, трацяць права на льготу і, у выпадку іх годнасьці, прыймаюцца на сапраўдную ваенную службу, незалежна ад нумару, выцягненага для іх жэрабя. Тыя ж, якія зпазьніліся па важным прычынам—права на льготу не трацяць, і у выпадку іх годнасьці, яны прыймаюцца на сапраўдную ваенную службу, або яна ім замяняецца невайсковым навучаньнем адпаведна з нумарам выцягненага для іх жэрабя.

**25.** Рэвалюцыйнаму Ваеннаму Савету Саюзу ССР даручаецца выдаць неабходныя інструкцыі аб ужываньні гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюза ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

5 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 55 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 6 сакавіка 1924 г.

---

## 115. Аб звальненьні ад прамысловага падатку прадпрыемстваў і асабістых прамысловых заняткаў інвалідаў працы і вайны.

Дзеля адмены пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 20 чэрвеня 1923 г. аб звальненьні вытворчых аб'яднаньняў інвалідаў і утрымліваемых імі гандлёвых установаў ад прамысловага падатку (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 61, арт. 571), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Зволіць ад дзяржаўнага прамысловага падатку ніжэйнаступныя прадпрыемствы інвалідаў працы і вайны:

а) прадпрыемствы вытворчых аб'яднаньняў (арцеляў) інвалідаў, арганізаваных органамі социяльнае забясьпекі, пры умове эксплёатацыі іх самімі аб'яднаньнямі і абслугоўваньня гэтых прадпрыемстваў непасрэдна самімі інвалідамі, а не інваліды дапушчаюцца толькі як інструктары, альбо для такой працы, выканаьнне

якой не пад сілу для саміх інвалідаў, з прычыны іх фізычных хібаў, прычым лік не інвалідаў не павінен перавышаць 50% агульнага ліку асобаў, абслугоўваючых прадпрыемства;

б) гандлёвыя прадпрыемствы об'яднаньняў інвалідаў, арганізаваных органамі соцыяльнае забясьпекі для збываньня інвалідамі пераважна вырабаў уласнае вытворчасьці, пры умове непасрэднае эксплёатацыі гэтых прадпрыемстваў самімі аб'яднаньнямі інвалідаў;

е) паасобныя заняткі індвалідаў, за якімі прызнана права на соцыяльную забясьпеку, рамёсламі і промысламі;

г) заняткі асобнымі інвалідамі, за якімі прызнана права на соцыяльную забясьпеку, гандлям, аднесеным раскладам гандлёвых прадпрыемстваў да 1-га разраду, а інвалідамі 1-й, 2-й і 3-й групы інваліднасьці — таксама і гандлям, аднесеным названым раскладам да 2-га разраду гандлёвых прадпрыемстваў.

**2.** На звальняемыя ад прамысловага падатку прадпрыемствы і асабістыя прамысловыя заняткі інвалідаў павінны выбірацца дармныя патэнты.

**3.** Інструкцыю аб ужываньні гэтае пастановы даручаецца выдаць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР водлуг згоды з народнымі камісарыятамі соцыяльнае забясьпекі саюзных рэспублік.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 69 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 сакавіка 1924 г.

---

## 116. Аб тэрмінах службы у рабоча сялянскай чырвонай арміі, рабоча-сялянскім чырвоным флеце і войсках Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня.

Для з'іначаньня арт.арт. 3, 4 і 5 дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Кнмісараў ад 28 верасьня 1922 г. аб абавязковай воінскай павіннасьці дзеля усіх грамадзян РСФСР мужчынскага полу (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 61, арт. 786), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Устанаўліваюцца ніжэйнаступныя тэрміны сапраўднай ваеннай службы:

а) для марскога флёту, а таксама для марскіх частак войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня—4 гады;

б) для мастакоў паветранага флёту—3 гады;

в) для кавалёў і перапісчыкаў, якія прайшлі адумысловы курс навучаньня—3 гады;

г) для пераменнага складу ваенных і ваенна-марскіх навуковых установаў—тэрміны, прадгледжаныя палажэньнямі аб гэтых установах;

д) для усіх бяз выключэньня іншых частак, штабаў, упраўленьняў, установаў і завядзеньняў рабоча-сялянскае чырвонае арміі і для сухапутных войскаў Аб'яднанага Палітычнага Упраўленьня—3 гады.

**2.** Пачынаючы з 1925 году, прызыў грамадзян, на сапраўдную ваенную службу робіцца 1 раз у год восеньню.

**3.** Прызыву падлягаюць грамадзяне, якія маюць 21 год да першага ліпеня году прызыву.

**4.** У зьвязку з дачай грамадзянам, карыстаючымся правамі на льготу па сямейнаму становішчу, магчымасьці замены сапраўднай ваеннай службы невайсковым ваенным навучаньнем, прадгледжанай арт. 5 дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 28 верасьня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г. № 61, арт. 786), скарочаны шасьцімесячны тэрміны службы грамадзян, якім дадзена памянёная льгота, адмяняецца.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 68 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 23 сакавіка 1924 г.

---

## 117. Аб утварэньні камітэтаў дапамогі Данецкаму вадазбору у асяродку і месцах.

Змэтаю забясьпечаньня хутчэйшага і пасьпешнага разьвіцьця буйнае каменнавуглёвае дзяржаўнае прамысловасьці Данецкага вадазбору пры умовах новае эканамічнае політыкі і абходу выпадковых крызысаў збыту данецкага топліву, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Утварыць пры прэзыдыуму вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР цэнтральны камітэт дапамогі Данецкаму вадазбору пад старшынством старшыні вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР з прыцягненьнем у склад камітэту старшынёў усерасійскага цэнтральнага савету профэсыональных саюзаў, Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня, рабоча-сялянскае інспэкцыі і буйнейшых спажыўцоў ад прамысловасьці і транспарту.

**2.** Для гэтае ж мэты утварыць на мясцох мясцовыя камітэты дапамогі Данецкаму вадазбору (з залежнасьцю іх ад цэнтральнага камітэту дапамогі Данецкаму вадазбору) у тых саюзных і аўтаномных рэспубліках, краінах і губэрнях, дзе данецкі апал у даваенны час ужываўся і дзе павінен найсьці сабе шырокі збыт і у цяперашні час, як:

Па Саюзу ССР:

I. Украінскай Соцыялістычнай Савецкай Рэспубліцы;

II. Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспубліцы;

III. Закаўкаскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспубліцы;

IV. Расійскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспубліцы:

1) Туркестану;
2) Крыму;
3) Рэспубліцы немцаў-Паволжа;
4) Паўночна-Заходняй краіне;
5) Маскоўскай губэрні:

6) Саратаўскай губэрні;
7) Курскай губэрні;
8) Варонежскай;
9) Арлоўскай губэрні;
10) Бранскай губэрні;
11) Івана-Вазнясенскай губэрні;
12) Ніжэгароцкай губэрні;
13) Ўладзімірскай губэрні;
14) Тульскай губэрні;
15) Гомельскай губэрні;
16) Тамбоўскай губэрні;
17) Разанскай губэрні;
18) Паўдзёна-Усходняй краіне (з асяродкам у Растове на Дону).

**3**. Мясцовыя камітэты дапамогі Данецкаму вядазбору у саюзных і аўтаномных рэспубліках утвараюцца пры вышэйшых саветах народнае гаспадаркі гэтых рэспублік і возглаўляюцца іх старшынямі, ў краінах і губэрнях—пры эканамічных нарадах або губэрскіх выканаўчых камітэтах, пад старшынством старшыні эканамічнае нарады або губэрскага выканаўчага камітэту.

**4**. Бліжэйшымі задачамі камітэтаў дапамогі Данецкаму вадазбору як цэнтральнага, гэтак і мясцовых, зьяўляецца дапамаганьне органам апалу у пашырэньні збыту і ужываньня данецкага апалу у паказаных мясцовасьцях, сярод прадпрыемстваў буйнае прамысловасьці і транспарту, кустарнае прамысловасьці, коопэрацыі, муніцыпалізаваных прадпрыемстваў і установаў, а таксама і сярод насельніцтва.

**5**. На вышэйшы савет народнае гарспадаркі Саюзу ССР ускладаецца распрацоўка пляну працы для цэнтральнага і мясцовых камітэтаў дапамогі Данецкаму вадазбору, а таксама інструкцыі для практычнага кіраваньня.

Гэта пастънова уваходзіць ў моц з моманту яе агалашэньня.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СВК Саюзу ССР* **А Енукідзе.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 68 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 23 сакавіка 1924 г.

---

## 118. Аб акцызе з рэктыфікаванага сьпірту, адпушчэемага на вырабку воцту.

У дадатак да пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 году аб акцызе са сьпірту, адпушчаемага на вырабку воцту (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., арт. 57) і п. „в“ арт. 15 дадатку да пастановы Савету Працы і Абароны ад 24 жніўня 1923 г. аб выказваньні цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 13, арт. 365), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1**. Устанавіць стаўку акцызу на рэктыфікаваны сьпірт, адпушчаемы воцтавым заводам і установам для вырабкі воцту,—у пяць капеяк (у чырвоным вылічэньн з градусу.

**2**. Тэрміны зьдзейсьненьня гэтае пастановы устанаўліваюцца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР і агалашаюцца у „Известиях“ ЦВК Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 69 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 сакавіка 1924 г.

---

## 119. Аб дадатку да артыкулу 9 „Палажэньня аб нетрах зямлі і іх распрацоўцы“.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Допоўніць арт. 9 „Палажэньня аб нетрах зямлі і іх распрацоўцы“ (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 1, арт. 19) ніжэйнаступнаю увагаю:

Увага 2. Прэзыдыуму вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР даецца права для асобных мясцовасьцяў Саюзу ССР працягваць устаноўлены гэтым артыкулам месячны тэрмін на падачу заявы аб дачы плошчы пад узьведку да трох месяцаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкрэтар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 69 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 сакавіка 1924 г.

---

## 120. Аб перанайменьні ст. Запарожжа Кацярынінскае чыгункі.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Перанайменаваць ст. Запарожжа Кацярынінскае чыгункі у ст. „Баглей“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 69 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 сакавіка 1924 г.

---

## 121. Аб перанайменьні камісіі па організацыі пахаваньня У. І. Леніна.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Перанайменаваць „Камісію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР па організацыі пахаваньня У. І. Леніна“ у „Камісію па увекавечаньню памяці У. І. Леніна“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А Енукідзе.**

28 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 74 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 30 сакавіка 1924 г.

**122. Аб пераводзе у чырвоннае вылічэньне нядоімак па падаткам і зборам, зьявіўшымся да ўвядзеньня чырвоннага вылічэньня адповедных падаткаў і збораў.**

У дадатак да пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 21 сьнежня 1923 г. аб зʼіначаньні рэдакцыі арт. 6 палажэньня аб спагнаньні падаткаў і збораў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 12, арт. 327), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Перавясьці, у парадку арт. 2 гэтае пастановы, у чырвонае вылічэньне нядоімкі па падаткам і зборам, зьявіўшыяся да ўвядзеньня ставак адпаведных падаткаў і збораў у чырвоным вылічэньні і не спагнаныя да дня агалошаньня гэтае пастановы.

**2.** Непагашаныя сумы нядоімак па падаткам і зборам, зьявіўшыхся да ўвядзеньня ставак адпаведных падаткаў і збораў у чырвонным вылічэньні, пераводзяцца у чырвоннае вылічэньне па курсу чырвонца на 1 кастрычніка 1923 г.

**3.** Пеня па памянёным у гэтай пастанове нядоімкам налічаецца у парадку пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 21 сьнежня 1923 г. на суму нядоімкі, выказанай у чырваным вылічэньні (арт.арт. 2 і 3 гэтае пастановы) за час з дня утварэньня нядоімкі па дзень выплаты.

**4.** Сумы, унесеныя плацельшчыкамі да выданьня гэтае пастановы у частковае пагашэньне пені па нядоімкам, памянёным у арт. 1, пераводзяцца у чырвонае вылічэньне па курсу чырвонца на дзень унясеньня памянёных сумаў і залічываюцца у суму нядоімкі і пені, вылічаную водлуг арт.арт. 2 і 3 гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

28 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 74 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 30 сакавіка 1924 г.

---

**123. Аб парадку спагнаньня акцызу з вінаградных, пладова-ягадавых і разынкавых віннасьцяў і гандлю гэтымі віннасьцямі.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Дазваляецца выпрабка і прадажа вінаградных, пладова-ягадавых і разынкавых віннасьцяў наступнае моцнасьці: вінаградных віннасьцяў ня вышэй 20 градусаў, пладова-ягадавых і разынкавых віннасьцяў—ня вышэй 14 градусаў па Тралесу.

**2.** У раёнах вінаробства вінаградаркам і вінаробам даецца права вольнае розьнічнае прадажы сваіх вінаў пры сваіх вінаградніках і фольварках, а таксама прадажы сваіх віннасьцяў у агульныя склады—без аплаты гэтых віннасьцяў акцызам.

**3.** Усе істнуючыя і нанова адчыняемыя у раёнах вінаробства склады для скуплі, перапрацоўкі і агульнае прадажы віннасьці і вінных матарʼялаў павінны быць зарэгістраваны у губэрскіх (ці адпавядаючых ім) аддзелах грашовых справаў.

**4.** Дзяржаўным вінавытворчым арганізацыям, коопэратыўным абʼяднаньням вінаградараў і іх саюзам, з мэтаю скуплі, перапрацоўкі і збыту агулам віннасьці і вінных матарʼялаў, дазваляецца мець у раёнах вінаградарства склады уёмістасьцю ня меньш 500 вёдраў віннасьці, бяз выбаркі особнага патэнту на права гандлю віннасьцю, але з абавязковаю выплатай прамысловага падатку.

**5.** Склады для скуплі перапрацоўкі і прадажы агулам віннасьці і вінных матарʼялаў, не прадгледжаныя у арт. 4, у тым ліку склады, выпрабляючыя разьліў віннасьці, выплачываюць устаноўлены прамысловы падатак і асобны патэнтны за права гандлю віннасьці збор.

Увага. Разьліў віннасьцы у сладах, прадгледжаных у гэтым артыкулу, дапушчаэцца толькі у бутылкі установленай уёмістасьці, заклейкаю іх належнымі этыкетамі і бандэролямі і з захаваньнем усіх правілаў, установленых для агульных складаў віннасьці не ў раёнах вінаробства.

**6.** Паказаным у арт.арт. 4 і 5 складам дазваляецца рабіць агульную прадажу віннасьці у іншыя агульныя склады у неразьлітым выглядзе і бэз аплаты акцызам. Агульная прадажа віннасьці з складаў у месяцы розьнічнае прадажы дазваляецца выключна у разьлітым і абандэроленым выглядзе з платай віна акцызам.

**7.** Перавозка віннасьці у выпадку яго вывазу з раёнаў вінаробства, а таксама перавозка віна за гэтыя работы па чыгунках і на параходах, робіцца водлуг правозных дакумантаў з захаваньнем правілаў, устанаўліваемых народным камісарыятым грашовых справаў Саюзу ССР па згодзе з народным камісарыятам шляхаў зносін Саюзу ССР. Правозныя дакуманты абавязкова вымагаюцца пры правозе віннасьці па чыгункам і на параходах колькасьцю звыш 15 бутэляк.

Увага. Парадак рэгуліраваньня гужавых перавозак віннасьці устанаўліваецца саветамі народных камісараў саюзных рэспублік

**8.** Розьнічная прадажа віннасьці за вінаробнымі раёнамі усюды, а у межах гэтых раёнаў—за выняткамі, паказанымі у арт. 2 гэтае пастановы робіцца на наступных падставах: а) на права прадажы павінна быць адтрымана дазваленьне губэрскага (ці адпавядаючага яму) адміністратыўнага адзелу, б) гандаль можа рабіцца з гандлёвых установаў, дакладна паказаных у выданым дазваленьні, в) прадажа віннасьці дапушчаецца толькі у пасудзе на якой есьць належныя этыкеты і бандэролі, г) віннасьць дзеля спажываньня на месцы прадажы адпушчаецца водлуг правілаў, устанаўліваемым народным камісарыятам унутраных справаў адпаведнае рэспублікі водлуг згоды з народным камісарыятам аховы здароўя тэй жа рэспублікі і д) гандлёваю установаю павінен быць выплачан установлены прамысловы падатак і асобны патэнтны збор.

Увага. Парадак рэгуліраваньня гандлю віннасьцю у духанах Закаўказьзя за рысамі гарадзкіх сяленьняў устанаўліваецца саветам народных камісараў Закаўкаскае Соцыялістычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі.

9. Правілы, рэгуліруючыя вытворчасьць вінаградных, пладова-ягядавых і разынкавых віннасьцяў, устанаўліваюцца саветамі народных камісараў саюзных рэспублік водлуг улагоджаных прапазыцыяў народных камісарыятаў грашовых справаў і народных камісарыятаў земляробства гэтых рэспублік.

10. Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даецца выдаць інструкцыю аб парадку ужываньня гэтае пастановы.

Тэрмін зьдзейсьненяня гэтае пастановы устанаўліваецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР і агалашаецца у „Известиях“ ЦВК Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

28 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 74 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 30 сакавіка 1924 г.

---

**124.** **Аб правядзеньні грашовае рэформы у Закаўкаскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспубліцы.**

З мэтаю уніфікацыі грашовага звароту на усім абшары Саюзу ССР, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Каміраў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Дэкрэты ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 5 лютага 1924 г. аб выпуску у зварот дзяржаўных казначэйскіх білетаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 2, арт. 28) і ад 22 лютага 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 61) аб чэканцы і выпуску у зварот сярэбрянае і меднае манеты савецкага узору пашырыць на тэрыторыю Закаўкаскай Социялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі 31 красавіка 1924 г., а пастановы СПА ад 29 лютага 1924 г. аб зьніжэньні розьнічных цэнаў і аб публікацыі розьнічных цэнаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт.арт. 104 і 105)—з 15 красавіка 1924 г.

2. Даручыць Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту і Савету Народных Камісараў Закаўкаскай Соцыялістычнай Фэдэратыйнай Савецкай Рэспублікі устанавіць парадак ажыцьцяўленьня гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Секратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

4 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 80 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 6 красавіка 1924 г.

---

**125.** **Аб уключэньні бюджэту Закаўкаскае Соцыялістычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі у адзіны бюджэт Саюзу ССР з 1 кастрычніка 1924 г.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Уключыць з 1 кастарычніка 1924 г. дзяржаўны бюджэт Закаўкаскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі у адзіны бюджэт Саюзу ССР на агульных з іншымі саюзнымі рэспублікамі падставах.

2. Пашырыць з паказанага у арт. 1 тэрміну на Закаўкаскую Соцыялістычную Фэдэратыйную Савецкую Рэспубліку дзейнасьць усіх законаў Саюзу ССР аб парадку складаньня, разгляданьня і выкананьня бюджэту.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

4 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 86 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 6 красавіка 1924 г.

---

**126.** **Аб дазволу маскоўскаму губэрскаму выканаўчаму камітэту, устанавіць дадатковы падатак з абвестак на умацненьне сродкаў па змаганьню з дзіцячаю бязпрытульнасьцю.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Даць маскаўскаму губэрскаму выканаўчаму камітэту права устанавіць дадатковы (зьверх прадгледжанага арт. 40 п. „с“ і арт. 94 часовага палажэньня аб мясцовых грашовых справах) падатак з абвестак, зьмешчаямых у ва ўсякага роду друкаваных выданьнях, велічынёю ня звыш 5% спаганяемай за абвесткі платы, на умацненьне сродкаў па змаганьню з дзіцячаю бязпрытульнасьцю.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

11 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 86 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 13 красавіка 1924 г.

---

**127.** **Аб парадку ужываньня пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 11 студзеня 1924 г. аб кроках да палягчэньня дзеля сялянства куплі сельска гаспадарчых прыладаў.**

Для разьвіцьця пастановы сваёй ад 11 студзеня 1924 г. аб кроках да палягчэньня дзеля сялянства куплі сельска-гаспадарчых прыладаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 1, арт. 5), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устаноўленае пастановаю ад 11 студзеня 1924 г. абавязковае зьніжэньне цэнаў на сельска-гаспадарчыя прылады, а роўна пакрыцьцё казной стратаў дзяржаўных, прамысловых і дзяржаўных і коопэратыўных гандлёвых органаў па прадажы сялянскаму насельніцтву сельска-гаспадарчых прыладаў па зьніжаным цэнам, пашыраецца на вырабы дзяржаўных заводаў, уключоных у вытворчую праграму 1923—1924 г. г. па сельска-гаспадарчаму машынабудававаню пад літ. „а“, „б“,

„в“ і „г“, а таксама на астаткі вырабаў гэтых заводаў на 1 студзеня 1924 г.

Абавязковае зьніжэньне цэнаў і узмяшчэньне казной стратаў прамысловых і гандлёвых органаў, панесеных з прычыны прадажы прыладаў сялянскаму насельніцтву па зьніжаным цэнам, пашыраюцца на наступныя выгляды сельска-гаспадарчых прыладаў, вытворчасьці памянёных заводаў: плугі, культыватары, бароны усіх гатункаў, лобогрэйкі, самаскідкі, снопавязалкі, малацілкі усіх выглядаў, апрача складаных малацілак з барабанам ад 28 дзюймаў і вышэй, прывады, сеялкі усіх выглядаў, сарціроўкі, ручныя сенныя прэсы, трыеры, корнерэзкі, букеры, акучнікі, льнамялкі, запашнікі, кукурузныя цёркі, веялкі усіх выглядаў, жмыхадрабілкі, зёрнадрабілкі, саламарэзкі, просарушкі і конныя сенныя прэсы.

**2.** Транспартныя выдаткі па дастаўцы сельска-гаспадарчых прыладаў з заводаў на мейсцы прадажы, велічынёю у 6% ад устаноўленых камісіяй Савету Працы і Абароны па унутранаму гандлю прэйс-курантных цэнаў на прылады, ня ўходзяць у вылічэньне гэтых ценаў і павінны быць аплачаны спажыўцом пры куплі прыладаў.

У выпадку фактычнага перавышэньня паказанае вышэй велічыні транспартных выдаткаў, казна узьмяшчае гэтыя дадатковыя выдаткі дзяржаўным і коопэратыўным гандлёвым арганізацыям, аднак ня звыш 2% ад прэйс-курантнае цаны прылады.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

11 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 86 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 13 красавіка 1924 г.

---

## 128. Аб выпуску 2-ое дзяржаўнае выйгрышнае пазыкі 1924 г.

З мэтаю павялічэньня дзяржаўных прыбыткаў і умацненьня грашовага укладу Саюзу ССР, а таксама з мэтаю дачы насельніцтву магчымасьці зьмяшчэньня сваіх зьберагальняў—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Выпусьціць другую дзяржаўную выйгрышную пазыку на суму 100.000.000 рублёў золатам тэрмінам на 5 гадоў, пачынаючы з 15 сакавіка 1924 па 15 сакавіка 1929 г., на ніжэйнаступных падставах.

**2.** Пазыка ўносіцца ў кнігу дзяржаўных пазыкаў Саюзу ССР пад назваю: „Другая дзяржаўная выйгрышная пазыка 1924 году“.

**3.** Другая дзяржаўная выйгрышная пазыка 1924 г. выпушчаецца 20 сэрыямі на 5 міл. руб. кожная у аблігацыях вартасьцю у 5 руб. золатам (з адным нумарам), дзесяць рублёў золатам (з двумя нумарамі) і пяцьдзесят рублёў золатам (з дзесяцьцю нумарамі).

**4.** Па аблігацыям пазыкі налічаюцца проценты велічынею у 6% (шэсьць) гадавых. Тэрмін выплаты процантаў назначаецца адзін раз у год—15 сьнежня, пачынаючы з 1924 года.

*Увага.* Цячэньне процантаў па купонам пачынаецца з 15 сакавіка кожнага году; проценты выплачываюцца з 15 сьнежня за прайшоўшыя з 15 сакавіка дзевяць месяцаў і за 3 месяцы наперад па 15 сакавіка наступнага году.

**5.** Па аблігацыям пазыкі робяцца пэрыодычна тыражы выйгрышаў, на выдачу якіх бярэцца на кожны гадавы пэрыод, лічуцы з 15 сакавіка 1924 г., асобны фонд велічынёю у 1/2 проценты з назоўнае сумы пазыкі, а усяго на 5 гадоў—7.500,000 рублёў.

**6.** У 1924—1929 гадах штогодна падлягаюць розыгрышу:

12 выйгрышаў—па 5000 рублёў золатам, 186—па 1000 р. золатам, 210—па 500 руб. золатам, 5.112—па 100 руб. золатам і 12.756—па 50 руб. золатам, усяго 18.276 выйгрышаў на агульную суму 1.500.000 руб. золатам.

**7.** Тыраж выйгрышаў робіцца: у працягу 1924 г.—4 разы, пачынаючы з 15 ліпеня; у працягу 1925—1928 г. г. па 6 раз у год і у 1929 г. (за час да 15 сакавіка)—два разы. Тэрміны тыражоў, а таксама велічыня падлягаючай розыгрышу у кожны з гэтых тэрмінаў сумы, з разьмяркаваньнем яе на асобныя выйгрышы, назначаюцца народным камісарыятам грашовых справаў, які сваечасова абвяшчае аб гэтым дзеля усеагульнага ведама.

**8.** Аблігацыі 2-ое дзяржаўнае выйгрышнае пазыкі 1924 г. прымаюцца у заклад па ўсім дзяржаўным пад радам і дастаўкам велічынёю у 60% іх назоўнае каштоўнасьці.

**9.** Аблігацыі пазыкі і зьдзелкі з аблігацыямі пазыкі не падлягаюць абкладаньню якімі б там ня было падаткамі і зборамі агульнадзяржаўнымі або мясцовымі.

Выплачваемыя дзяржаўцам пазыкі выйгрышы таксама звальняюцца ад усякага абкладаньня і ня ўходзяць у вылічэньне агульнае сумы прыбытку, абкладваемага прыбыткова-памаентным падаткам.

**10.** 2-ая дзяржаўная выйгрышная пазыка пагашаецца роўнымі долямі праз штогодныя тыражы пагашэньня, пачынаючы з 15 сакавіка 1926 г. Тэрміны пагашэньня, колькасьць пагашаемых у кожны тыраж аблігацыяў і парадак вытворчасьці тыражоў устанаўліваюцца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР.

**11.** Тэрмін дзеля падачы да аплаты тэрміновых купонаў і выйшаўшых у тыраж аблігацыяў, а роўна заявак на адтрыманьне выйгрышаў устанаўліваецца 3-гадовы з дня наступленьня адпаведнага тэрміну купонаў, а таксама з дня тыражу пагашэньня і выйгрышаў. Як пройдзе гэты тэрмін дзяржаўцы аблігацыяў пазыкі і купонаў трацяць права на адтрыманьне належачых ім сумаў.

**12.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў даецца выдаць падрабязныя правілы аб папярэдняй падпісцы, парадку выплаты процантаў і парадку вытварчасьці тыражоў выйгрышаў і пагашэньня пазыкі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

16 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 13 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ал 17 красавіка 1923 г.

---

**129.** **Аб элеваторах і зернаскладах, маючых агульнадзяржаўнае значаньне.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Прызнаць элеватары і зернасклады, пералічаныя у дадаваемым да гэтае пастановы пераліку, маючымі агульнасаюзнае значаньне.

2. Даручыць Савету Працы і Абароны Саюзу ССР устанавіць парадак кіраваньня памянёнымі у арт. 1 элеватарамі і зернаскладамі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

18 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

---

**Пералік элеватараў і зернаскладаў, маючых агульнасаюзнае значаньне.**

**А. Элеваторы.**

| | | Уёмістасьць. |
|---|---|---|
| 1. Валуйскі | 500 | тысячаў пудоў. |
| 2. Ліскінскі | 500 | „ „ |
| 3. Талоўскі | 500 | „ „ |
| 4. Арлоўскі | 250 | „ „ |
| 5. Елецкі I | 650 | „ „ |
| 6. Елецкі II | 150 | „ „ |
| 7. Барысаглебскі I | 1500 | „ „ |
| 8. Барысаглебскі II | 210 | „ „ |
| 9. Граскі | 1700 | „ „ |
| 10. Жэрдзеўскі | 600 | „ „ |
| 11. Кірсанаўскі | 750 | „ „ |
| 12. Казлоўскі | 300 | „ „ |
| 13. Кочэткоўскі | 300 | „ „ |
| 14. Лебядзянскі | 1000 | „ „ |
| 15. Мардоўскі | 600 | „ „ |
| 16. Аблоўскі | 150 | „ „ |
| 17. Ржакскі | 400 | „ „ |
| 18. Сампурскі I | 500 | „ „ |
| 19. Сампурскі II | 150 | „ „ |
| 20. Такарэўскі I | 600 | „ „ |
| 21. Такарэўскі II | 100 | „ „ |
| 22. Тамбоўскі | 750 | „ „ |
| 23. Акцюбінскі | 500 | „ „ |
| 24. Платонаўскі | 600 | „ „ |
| 25. Арэнбургскі | 200 | „ „ |
| 26. Башмакоўскі | 500 | „ „ |
| 27. Белінскі | 300 | „ „ |
| 28. Пензенскі | 150 | „ „ |
| 29. Саранскі | 750 | „ „ |
| 30. Абдулінскі | 700 | „ „ |
| 31. Бузулукскі | 800 | „ „ |
| 32. Багатаўскі | 300 | тысячаў пудоў. |
| 33. Бугурусланскі | 600 | „ „ |
| 34. Непрыкскі | 300 | „ „ |
| 35. Пагрузненскі | 500 | „ „ |
| 36 Самарскі I | 3400 | „ „ |
| 37. Самарскі II | 300 | „ „ |
| 38. Сарочынскі I | 700 | „ „ |
| 39. Полкайскі | 300 | „ „ |
| 40. Краснакутскі | 750 | „ „ |
| 41. Аркадакскі | 500 | „ „ |
| 42. Аткарскі | 500 | „ „ |
| 43. Алтацінскі | 500 | „ „ |
| 44. Баландзінскі | 750 | „ „ |
| 45. Бекоўскі | 300 | „ „ |
| 46. Балашоўскі I | 1000 | „ „ |
| 47. Балашоўскі II | 300 | „ „ |
| 48. Кацярынаўскі | 500 | „ „ |
| 49. Еланскі | 300 | „ „ |
| 50. Калышлейскі | 300 | „ „ |
| 51. Камышэнскі | 400 | „ „ |
| 52. Карабулакскі | 150 | „ „ |
| 53. Лапухоўскі | 300 | „ „ |
| 54. Новаузенскі | 400 | „ „ |
| 55. Пятроўскі I | 750 | „ „ |
| 56. Пятроўскі II | 150 | „ „ |
| 57. Раманаўскі | 150 | „ „ |
| 58. Сердобскі I | 500 | „ „ |
| 59. Сердобскі II | 150 | „ „ |
| 60. Салтыкоўскі | 300 | „ „ |
| 61. Тамалінскі | 400 | „ „ |
| 62. Тры-Астроўскі | 150 | „ „ |
| 63. Пугачоўскі | 150 | „ „ |
| 64. Уральскі | 150 | „ „ |
| 65. Белебееўскі | 500 | „ „ |
| 66. Доўлеканоўскі | 1000 | „ „ |
| 67. Роеўскі | 300 | „ „ |
| 68. Чышлінскі | 500 | „ „ |
| 69. Бугумальманскі | 600 | „ „ |
| 70. Набярэжна-Чэльнінскі | 2000 | „ „ |
| 71. Курганскі | 200 | „ „ |
| 72. Шуміханскі | 500 | „ „ |
| 73. Чэлябінскі | 1000 | „ „ |
| 74. Чумлякскі | 500 | „ „ |
| 75. Кіеўскі | 860 | „ „ |
| 76. Харкаўскі | 200 | „ „ |
| 77. Лазоўскі | 300 | „ „ |
| 78. Мілероўскі | 600 | „ „ |
| 79. Маразоўскі | 600 | „ „ |
| 80. Abліўскі | 600 | „ „ |
| 81. Тацынскі | 600 | „ „ |
| 82. Армавірскі | 200 | „ „ |

| | | Уёмістасьць. | | |
|---|---|---|---|---|
| 83. Ціхарэцкі | 200 | тысячаў | пудоў. |
| 84. Каўкаскі | 200 | „ | „ |
| 85. Сераброўскі | 500 | „ | „ |
| 86. Філаноўскі | 500 | „ | „ |
| 87. Урухінскі | 500 | „ | „ |
| 88. М. Казанскі | 1300 | „ | „ |
| 89. М. Уральскі | 1000 | „ | „ |
| 90. Данкоўскі | 200 | „ | „ |
| 91. Ражскі | 300 | „ | „ |
| 92. Узлоўскі | 250 | „ | „ |
| 93. Кантэміраўскі | 250 | „ | „ |
| 94. Залатухінскі | 25 | „ | „ |
| 95. Прохараўскі | 25 | „ | „ |
| 96. Зьміеўскі | 40 | „ | „ |
| 97. Мцэнскі | 50 | „ | „ |
| 98. Рассошынскі | 60 | „ | „ |
| 99. Вярхоўеўскі | 90 | „ | „ |
| 100. Хамутоўскі | 90 | „ | „ |
| 101. Ліпецкі | 30 | „ | „ |
| 102. Мавшанскі | 200 | „ | „ |
| 103. Сарочынскі II | 100 | „ | „ |
| 104. Матышэўскі | 150 | „ | „ |
| 105. Ртышчэўскі | 100 | „ | „ |
| 106. Станічны | 100 | „ | „ |
| 107. Маларасійскі | 100 | „ | „ |
| 108. Нагутскі | 100 | „ | „ |
| 109. Курсаўскі | 100 | „ | „ |
| 110. Незлобінскі | 200 | „ | „ |
| 111. Разанскі | 100 | „ | „ |
| 112. Аўсянскі | 200 | „ | „ |
| 113. Каломенскі | 120 | „ | „ |
| 114. Вердскі | 60 | „ | „ |
| 115. Зарайскі | 100 | „ | „ |
| 116. Ухалоўскі | 100 | „ | „ |
| 117. Эпіфанскі | 109 | „ | „ |
| 118. Яфрэмаўскі | 100 | „ | „ |
| 119. Жданоўскі | 100 | „ | „ |
| 120. Клекатоўскі | 100 | „ | „ |
| 121. Карасеўскі | 90 | „ | „ |

**Б. Зерносклады.**

| | Калькасьць. | Уёмістасьць. |
|---|---|---|
| 1. Елецкія | 4 | 273 тыс. пуд. |
| 2. Лебедзянскія | 2 | 88 „ „ |
| 3. Граскія | 2 | 340 „ „ |
| 4. Башмакоўскія | 4 | 101 „ „ |
| 5. Бугурусланскія | 3 | 123 тыс. пуд. |
| 6. Чардаклінскі | 1 | 300 „ „ |
| 7. Сімбірскі | 1 | 55 „ „ |
| 8. Алатырскія | 2 | 74 „ „ |
| 9. Уфімскія | 4 | 201 „ „ |
| 10. Сінельнікоўскія | 2 | 199.500 „ |
| 11. Мелітапольскія | 1 | 108 тыс. пуд. |
| 12. Кудашэўскі | 1 | 112.500 „ |
| 13. Константінаградскія | 4 | 209.750 „ |
| 14. Сумскія | 2 | 51.780 „ |
| 15. Вінадзелінскія | 2 | 67.501 „ |
| 16. Маздокскія | 2 | 90.000 „ |
| 17. Раненбургскія | 1 | 235.000 „ |
| 18. Славянскі | 1 | 67.555 „ |
| 19. Узлоўскія | 2 | 72.500 „ |
| 20. Прохараўскія | 3 | 73.500 „ |
| 21. Ржаўскія | 3 | 73.500 „ |
| 22. Зміеўскія | 2 | 135.000 „ |
| 23. Студзеноўскі | 1 | 65.500 „ |
| 24. Доўгінскі | 1 | 32.000 „ |
| 25. Хамутоўскі | 2 | 47.000 „ |
| 26. Ак-Булакскі | 1 | 72.500 „ |
| 27. Студзенеўскія | 2 | 41.000 „ |
| 28. Сіманшчынскі | 1 | 29.100 „ |
| 29. Будзяк | 1 | 91.000 „ |
| 30. Сулайскія | 2 | 124.000 „ |
| 31. Туймазінскі | 1 | 109.000 „ |
| 32. Акімаўскія | 3 | 56.250 „ |
| 33. Рыкаўскі | 1 | 64.750 „ |
| 34. Сокологорскія | 2 | 75.000 „ |
| 35. Божкоўскі | 1 | 88.500 „ |
| 36. Берэзянскі | 1 | 58.500 „ |
| 37. Золотоношскі | 1 | 54.750 „ |
| 38. Кобелякскі | 1 | 67.500 „ |
| 39. Пірацінскі | 1 | 67.500 „ |
| 40. Майкопскі | 1 | 49.750 „ |
| 41. Нова-Тітараўскі | 1 | 45.000 „ |
| 42. Жданкоўскія | 2 | 76.500 „ |
| 43. Клекоткінскі | 1 | 16.500 „ |
| 44. Эпіфанскія | 2 | 33.000 „ |
| 45. Карасеўскі | 1 | 20.250 „ |
| 46. Сафаноўскі | 1 | 60.000 „ |
| 47. Тоўкатскі | 1 | 60.000 „ |
| 48. Запарожскі | 1 | 187.500 „ |
| 49. Пятроўскі | 1 | 33.750 „ |
| 50. Аўсянскі | 1 | 56.000 „ |
| 51. Пяцігорскі | 1 | 45.000 „ |

# Пастановы і загады Савету Народных Камісарау
## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

### 130. Аб звальненьні ад дзяржаўнага прамысловага падатку опэрацыяў дзяржаўнага гандлёвага флёту.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Зволыніць ад дзяржаўнага прамысловага падатку судавыя опэрацыі па транспартаваньню пасажыраў і грузаў на суднах дзяржаўнага гандлёвага флёту па марскім шляхам.

Увага. Усе прамысловыя прадпрыемствы, якія непасрэдна і выключна абслугоўваюць патрэбы дзяржаўнага гандлёваго флёту (верфі, докі і інш.), гэтак сама звальняюцца ад прамысловага падатку.

2. Паказаная ў арт. 1 льгота не распаўсюджываецца на опэрацыі дзяржаўнага гандлёвага флёту, якія носяць таварна-гандлёвы ці камісіенны характар (транспортна-камісіённые, экспэдыторскія, таварна-складачныя, гандлёвыя і г. п.), а гэтак сама на нагрузачна-разгрузачныя опэрацыі на не належачых дзяржаўнаму гандлёваму флёту суднах.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

10 Студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

### 131. Аб адмене пастановаў СНК РСФСР ад 11 жніўня 1921 году аб дазволу дарэмнай перасылкі пачтовых пасылак з харчамі у мяйсцавасьці, захопленыя няўраджаем і ад 23 верасьня 1921 году аб льготнай аплаце пасылак з харчамі адрасаваных у мяйсцовасьці, якія абвешчаны галадаючымі.

З прычыны поўнай ліквідацыі голаду і зачыненьня установаў цэнтральнай камісіі дапамогі галадаючым і цэнтральнай каміссіі па змаганьню з вынікамі голоду, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Лічыць адмененым:

а) Пастанову Савету Народных Камісараў Саюзу РСФСР ад 11 жніўня 1921 году аб дазволу дарэмнай перасылкі пачтовых пасылак з харчамі у мяйсцовасьці, якія захоплены няўраджаем (Зб. Зак. РСФСР 1921 г. № 67, арт. 518).

2. Даручыць народнаму камісарыяту почт і тэлеграфаў адмяніць усе яго цыркулярныя загады, дадзеныя дзеля выкананьня вышэйпаказаных пастановаў Савету Народных Камісараў РСФСР.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 66. „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 21 сакавіка 1924 г.

---

### 132. Аб увядзеньні лічэньня часу водлуг міжнароднаго укладу гадзінных паясоў.

У мэтах хутчэйшага устанаўленьня адзінакавага з іншымі старонкамі лічэньня часу ў працягу сутак, абумаўляючага на усей зямной кулі адны й тыя самыя паказаньні гадзін у хвілінах і сэкундах, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР у дапаўненьне да дэкрэту Савету Народных Камісараў РСФСР ад 8 лютага 1919 году аб увядзеньні лічэньня часу па міжнароднай сыстэме гадзінных паясоў (Зб. Зак. РСФСР 1919 г. № 6, арт. 59), і да пастановы Савету Народных Камісараў РСФСР ад 24 чэрвеня 1919 г. (Зб. Зак. РСФСР 1919 г., № 28, арт. 314) і ў адмену дэкрэту Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 17 студзеня 1924 году (Весьн. ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 1, арт. 10), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Прызнаць неабходным правядзеньне ў жыцьцё дэкрэту ад 8 лютага 1919 году (Зб. Зак. 1919 г., № 6, арт. 59) на ўсім абшару Саюзу ССР.

2. Дла азначанай у арт. 1 мэты, у тры гадзіны раніцы 1 траўня 1924 году ўсе гадзіннікі на чыгунках і ў пачтова-тэлеграфных установах перавясьці на 1 гадзіну назад.

3. Аднaчасова гадзіннікі, знаходычыяся ў даступных для публікі вакзальных пачтова-тэлеграфных установах паставіць гэтак, каб яны паказалі цельны лік гадзін, роўны нумару поясу. Час у працягу сутак лічыць з 0 да 24 гадзін, прымаючы за пачатак сутак поўнач.

4. У поўнач з 1 па 2 траўня 1924 г. паставіць гадзіннікі паўсямесна ў Саюзе ССР па часу гэтага поясу-паказываемаму гадзіннікамі, пераведзенымі згодна арт. 3.

5. Даручыць народным камісарыятам шляхаў зносін почт і тэлеграфаў, супольна, выдаць адпаведна з арт. 5 дэкрэту СНК, РСФСР ад 8 лютага 1919 году (Зб. Зак. 1919 г., № 6, арт. 59), інструкцыі дзеля ужываньня гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

15 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 75 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 1 красавіка 1924 г.

---

### 133. Аб спыненьні рэалізацыі першае дзяржаўнае 6%-выйгрышнае пазыкі ў прымусовым парадку.

З прычыны поўнага разьмяркаваньня аблігацыяў першай дзяржаўнай 6%-най выйгрышнай пазыкі, Савет Народных Камісараў Союзу ССР **пастанаўляе:**

Спыніць ад дня выданьня гэтай пастановы дзеяньне ніжэй ідучых пастановаў, датыркаючыхся разьмяркаваньня першай дзяржаўнай 6%-най выйгрышнай пазыкі ў прымусовым парадку;

а) пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 4 верасьня 1924 году аб прымусовым разьмяркаваньні пазыкі сярод заможных колаў насельніцтва (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 5, арт. 117);

б) пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 18 верасьня 1923 г. аб прымусовым разьмяшчэньні пазыкі сярод подрадчыкаў, дастаўнікаў і камісіянэраў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 5, арт 118);

в) пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 7 верасьня 1923 г. аб разьмяркаваньні пазыкі ў дзяржаўных і коопэратыўных прадпрыемствах (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г, № 6, арт. 183);

г) пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 9 кастрычніка 1923 году аб прымусовым разьмяркаваньні пазыкі сярод асобаў, маючых высокі прыбытак (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 7, арт. 208);

д) пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 19 лютага 1924 году аб прымусовым разьмяркаваньні пазыкі сярод прыватных падрадчыкаў, дастаўнікаў і камісіянэраў у лік выплаты водлуг умоваў, зробленых пасьля 18 верасьня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 3).

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Аглошана у № 89 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 17 красавіка 1924 г.

---

## 134. Аб льготным праезьдзе уцякачоў ад голаду, якія варочаюцца на радзіму.

1. Устанавіць льготны тарыф на праезд у прыстасаваных таварных вагонах тавара-пасажырскіх цягнікаў партыяў уцякачоў ад голаду, якія выехалі з пацярпеўшых раёнаў 1921—22 г.г. і накіроўваюцца зваротна ў быўшыя галодныя раёны, са скідкаю у 50% з адпаведнага тарыфу. Азначаная льгота даецца пры умове аплаты праезду паказаных асобаў з разьліку ня меньш чымся за 40 чалавек за кожны заняты таварны вагон.

2. Паказаны ў арт. 1 льготны тарыф належыць да ужываньня водлуг паказу засьведчаньня асобнае сэкцыі камітэту дапамогі сельскай гаспадарцы пры Усерасейскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэце ці яе мяйсцовых органаў, але ня ніжэй губэрнскіх, а дзе апошніх няма,—па засьведчаньням прэзыдыумаў мяйсцовых выканаўчых камітэтаў.

3. Народнаму камісарыяту шляхаў зносін даручаецца выпрацаваць, супольна з асобнай сэкцыяй камітэту дапамогі сельскай гаспадарцы пры УЦВК, ў тыднёвы тэрмін інструкцыю аб ужываньні гэтай пастановы.

4. Тэрмін дзеяньня гэтай пастановы устанавіць з 1 красавіка па 1 кастрычніка 1924 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 сакавіка 1924 году. Масква—Крэмль.

Аглошана № 75 „Известий" ЦВК. Саюзу ССР ад 1 красавіка 1924 году.

---

## 135. Аб парадку працы па складаньню штомесячных бюджэтных плянаў.

У мэтах упарадкаваньня працы па складаньню штомесячных бюджэтных плянаў, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. У падставу працы па складаньню штомесячных бюджэтных плянаў прымаюцца орыентыровачныя грашовыя каштарысы й росьпісы дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў—агульнасаюзны й саюзных рэспублікаў, а гэтак сама зацьверджаныя квартальныя бюджэты.

2. Не пазьней 5 ліку кожнага месяцу папарэдняга бюджэтнаму месяцу, агульнасаюзныя й аб'яднаныя ведамствы й установы саюзу ССР паведамляюць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР свае намеры аб неабходных ім на наступны месяц асігнаваньнях па апрацаванай народным камісарыятам грошаў Саюзу ССР форме.

3. Не пазьней 10 ліку кожнага месяцу, папярэдняга бюджэтнаму месяцу, народныя камісарыяты грошаў Расейскай Соцыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі, Украінскай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі й Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі падаюць у народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР зацьверджаныя належачымі саветамі народных камісараў бюджэтныя пляны на наступны месяц, прад'угадываючыя неабходныя для аб'яднаных і неаб'яднаных народных камісарыятаў і установаў паказаных рэспублік асігнаваньні.

4. Народны камісарыят грошаў Саюзу ССР уносіць штомесячныя бюджэтныя пляны саюзных рэспублік у агульны бюджэтны плян саюзу й дае апошні на зацьверджаньне ў Савет Працы і Абароны са сваім заключэньнем па плянам саюзных рэспублік і з наказам тых зьмен, якія народны камісарыят грошаў Саюзу ССР прызнае неабходным у іх занясьці, пры гэтым свае заключэньні па бюджэтным плянам саюзных рэспублік народны камісарыят грошаў Саюзу ССР перасылае ў копіі прадстаўнікам саюзных рэпублік.

Прадстаўнікі саюзных рэспублік павінны да моманту разгляданьня Саветам Працы й Абароны гэтага пытаньня даць свае заключэньні.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Союзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Союзу ССР* **Л. Фоціева.**

22 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 136. Аб адмысловых сродках вышэйшага савету народнай гаспадаркі Саюзу ССР па навукова-тэхнічнаму аддзелу.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Даць вышэйшаму савету народнай гаспадаркі Саюзу ССР па навукова-тэхнічнаму аддзелу і падведамсьцьвеным апошнему навуковым установам права мець адмысловыя сродкі, атрымоўваемыя праз вылучэньне прыбыткаў.

а) ад лабараторыяў, майстэрняў, кабінэтаў, ад эксплёатацыі знаходзячыхся ў іх уладаньні зямельных вучасткаў, будынкаў і іншай маемасьці;

б) ад прадажы права на выданьне працы паказаных установаў і самых выданьняў;

в) ад спагнаньня пла ы за прысутнасьць на арганізуемых паказанымі установамі лекцыях, выстаўках і за карыстаньне кніжкамі, падручнікамі, калекцыямі;

г) з падмогі ад дзяржаўных установаў і грамадзянскіх організацыяў, ахвяр і іншых выпадковых прыбыткаў.

**2.** Парадак атрыманьня, захоўваньня й растрачываньня адмысловых сродкаў, а гэдак сама справаздачнасьці аб іх, вызначаюцца асобай інструкцыяй, выдаваемай вышэйшым саветам народнай гаспадаркі Саю у ССР па згодзе с народым камісарыятам грошаў Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

4 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 137. Аб дачы грамадзянскімі й коопэ:тыўнымі прадпрыемствамі ў грашовыя аддзелы ведаў аб прыватных гандлёвых пасрэдніках.

Савет Народных Камісараў Саюза ССР **пастанаўляе:**

**1.** Абавязаць усе дзяржаўныя й каапэратыўныя прадпрыемствы даваць падлегаючым грашовым органам, адначасова з палачай справаздач ці заяў аб зваротах, веды: а) аб сумах заделак па здабываньню ці продажу праз прыватных пасрэднікаў матар'ялу і іншых сродкаў вытворчасьці, продукцыі прадпрыемства й ўселякага роду тавараў; б) аб сумах комісіёнага узнагароджэньня выплачаных прыватным пасрэднікам і в) сьпісы гэтых пасрэднікаў з паказам іх мейсца жыхарства ці мейсца знаходжаньня іх прадпрыемстваў.

**2.** Даручыць народнаму камісарыяту грошаў Саюзу ССР выдаць інструкцыю аб ужываньні гэтай пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

4 красавіка 1924 г. Масква - Крэмль.
Агалошана у № 85 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 12 красавіка 1924 г.

## 138. Аб назначэньні пэнсіі праф. Вільямсу.

З прычыны 35-годзьдзя навуковай, учэбна-пэдагагічнай і грамадзянскай дз йнасьці рэктара Ціміразеўскай сальска-гаспадарчай акадэміі праф. В. Р. Вільямса, Савет Народных Кам'сараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Назначыць праф. Вільямсу пажыцьценую пэнсію ў велічыне паўтарной вышэйшай стаўкі тарыфу адпаведных працаўнікоў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

4 красавіка 1924 г. Масква - Крэмль.
Агалошана ў № 82 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 12 красавіка 1924 г.

## 139. Аб разьмяркаваньні аблігацыяў 2-й дзяржаўнай выйграшнае пазыкі 1924 г. ў обявязковым парадку.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Выплатчыкі аснаўных абкладаў прыбыткова-памаентнга падатку, аднесеныя да катэгорыі Б асобы, адтрымоўваючыя прыбыткі ад асабістае працы не па найму (арт. арт. 3 і 6 палажэньня аб дзяржаўным прыбткова-памаетным палатку ад 12 лістападу 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г. № 11, арт. 317) і В-асобы, адтрымоўваючыя прыбытак ад ўладаньня прамысловымі і гандлёвымі прадпрыемствамі, будовамі, капіталамі, ад арэндаваньня маемасьці й ад іншых непрацоўных крыніц прыбытку (арт. арт. 3 і 7 палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку), павінны ў тры тэрміны, не пазьней 1 траўня, 15 чэрвеня й 15 ліпеня 1924 году, набыць аблігацыі 2-ой дзяржаўнай выйграшнай пазыкі 1924 году на суму, устанаўліваемую наступнымі артыкуламі як за 1-ае, гэтак сама і за 2-ое паўгодзьдзе 1923—1924 бюджэтнага году.

1) выплатчыкі прыбытковага падатку, выплачываючыя меньш 5 рублёў за паўгодзьдзя, ад абавязковага набыцьця аблігацыі выйграшнай пазыкі звальняюцца;

2) выплатчыкі падатку з паўгадавым акладам вышэй 5 рублёў за паўгодзьдзе, набываюць за кожнае паўгодзьдзе колькасьць аблігацыяў, адпавядаючую суме аснаўнога паўгадавога акладу прыбытковага падатку, прычым рэшта, непакрываючая каштоўнасьць аблігацыяў 5 рублёвай вартасьці, у рахунак ня прымаецца.

Увага. Выплатчыкі, для якіх палова паўгадовага акладу прыбытковага падатку складае меньш 5 рублёў, ўносяць у скарбніцы народ ага камісарыяту грошаў у тэрміны 1 траўня й 15 чэрвеня суму, роўную палове аснаўнога акладу падатку пад часовыя квіткі. Выплата астатней часткі каштоўнасьці аблігацыяў робіцца не пазьней 1 траўня гэтага году па акладу 1 паўгодзьдзя гэтага году й 15 ліпеня—па акладу 2 паўгодзьдзя гэтага году.

**2.** Выплатчыкі прогрэсіўных абкладаў прыбыткова-памаентнага падатку, вылічаемых водлуг сумеснасьці прыбыткаў і каштоўнасьці маемасьці (арт. 13, за выключэньнем катэгорыі паказанай у п. „е" арт. 17 палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку (Весьнік ЦВК СНК і СПА 1923 г. № 11, арт. 317), павінны здабыць на кожнае паўгодзьдзе 1923 і 1924 бюджэтнага году ніжэйнаступную колькасьць аблігацыяў 2-ой выйграшнай пазыкі.

**А Выплатчыкі прыбытковага падатку.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Выплатчыкі | 1 разр. | на суму | 10 р. |
| „ | 2 „ | „ „ | 15 „ |
| „ | 3 „ | „ „ | 15 „ |
| „ | 4 „ | „ „ | 15 „ |
| „ | 5 „ | „ „ | 20 „ |
| „ | 6 „ | „ „ | 25 „ |
| „ | 7 „ | „ „ | 35 „ |
| „ | 8 „ | „ „ | 45 „ |
| „ | 9 „ | „ „ | 60 „ |
| „ | 10 „ | „ „ | 70 „ |
| „ | 11 „ | „ „ | 90 „ |
| „ | 12 „ | „ „ | 105 „ |
| „ | 13 „ | „ „ | 120 „ |
| „ | 14 „ | „ „ | 140 „ |
| „ | 15 „ | „ „ | 160 „ |
| „ | 16 „ | „ „ | 180 „ |
| „ | 17 „ | „ „ | 200 „ |

плюс 25 процантаў з акладу падатку, вышэйшага 1250 рубл.

**Б. Выплатчыкі памаентнага падатку.**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Выплатчыкі | 2 разр. | на | суму | 5 | р. |
| „ | 3 | „ | „ | 10 | „ |
| „ | 4 | „ | „ | 15 | „ |
| „ | 5 | „ | „ | 20 | „ |
| „ | 6 | „ | „ | 30 | „ |
| „ | 7 | „ | „ | 45 | „ |
| „ | 8 і наст. разр. 100% з акладу. | | | | |

Паказаная колькасьць аблігацыяў павінна быць здабыта за 1 поўгодзьдзе не пазьней 1 траўня й за 2 поўгодзьдзе—1 жніўня й 1 верасьня 1924 г. роўнымі часткамі. Пры гэтым для выплатчыкаў 1—5 разрадаў, па суменасьці прыбыткаў залічваецца лік аблігацыяў, здабытых на падставе арт. I.

**III.** Звыш таго выплатчыкі прыбытковага падатку 6—17 разрадаў за выключэньнем катэгорыі „е“ арт. 13, у месяцы, у якія не устаноўлена выплата прыбыткова-памаентнага падатку, павінны 20 ліку кожнага месяцу, пачынаючы з красавіка 1924 году, здабываць ніжэй наступную колькасьць аблігацыяў выйграшнай пазыкі:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| На 6 | разраду | на | суму | 15 | рублёў |
| „ 7 | „ | „ | „ | 25 | „ |
| „ 8 | „ | „ | „ | 50 | „ |
| „ 9 | „ | „ | „ | 70 | „ |
| „ 10 | „ | „ | „ | 90 | „ |
| „ 11 | „ | „ | „ | 120 | „ |
| „ 12 | „ | „ | „ | 150 | „ |
| „ 13 | „ | „ | „ | 180 | „ |
| „ 14 | „ | „ | „ | 210 | „ |
| „ 15 | „ | „ | „ | 240 | „ |
| „ 16 | „ | „ | „ | 270 | „ |
| „ 17 | „ | „ | „ | 300 | „ |

плюс аблігацыі на суму 50 рублёў на кожную поўную 1.000 руб. паўгадовога прыбытку звыш 8.000 рублёў.

У тыя месяцы, у якія ўстаноўлены тэрміны выплаты прыбыткова-памаентнага падатку, паказаныя вышэй аклады паменьшаюцца ўдвое.

**IV.** Аб здабыцьці аблігацыяў пазыкі ў парадку падзелаў I, II і III гэтай пастановы робіцца знак з паказам нумароў, выданых аблігацыяў на квітках аб выплаце прыбыткова памаентнага падатку.

**V.** Выплатчыкі патэнтнага збору (не выключаючы дзяржаўных і коопэратыўных прадпрыемстваў) пры выборцы паўгадовых патэнтаў на паўгодзьдзе красавік—верасень павінны здабыць ніжэй наступную колькасьць аблігацыяў 2-й выйграшнай пазыкі.

1) Абіраючыя патэнт на гандлёвыя прадпрыемствы першых двох разрадаў, калі імі не пададзен квіток аб здабыцьці аблігацыяў пазыкі, згодна падзелаў II і III гэтай пастановы, павінны здабыць аблігацыяў на суму 5 рублёў, трэцяга разраду—на суму 15 рублёў—на суму 50 рублёў, пятага разраду—на суму 125 рублёў.

2) Абіраючыя патэнты на прамысловыя прадпрыемствы I разраду, калі імі не пададзен квіток аб здабыцьці аблігацыяў пазыкі, згодна падзелаў II і III гэтай пастановы, павінны здабыць аблігацыі на суму 5 рублёў.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Абіраючыя | патэнт | II и III | разраду | на | суму | 15 | рублёў |
| „ | „ | IV | „ | „ | „ | 25 | „ |
| „ | „ | V | „ | „ | „ | 35 | „ |
| „ | „ | VI | „ | „ | „ | 50 | „ |
| „ | „ | VII | „ | „ | „ | 65 | „ |
| „ | „ | VIII | „ | „ | „ | 75 | „ |
| „ | „ | IX | „ | „ | „ | 100 | „ |
| „ | „ | X | „ | „ | „ | 150 | „ |
| „ | „ | XI | „ | „ | „ | 200 | „ |
| „ | „ | XII | „ | „ | „ | 250 | „ |

3) Абіраючыя патэнт на асабістыя прамысловыя заняткі I і II разрадаў павінны здабыць аблігацыяў на суму 5 рублёў, трэцяга—на суму 10 рублёў, чацьвертага—на суму 15 рублёў, пятага—на суму 50 рублёў.

Аб здабыцьці аблігацыяў у парадку арт. 5 гэтай пастановы робіцца знак на патэнту з паказам нумароў выданых падпішчыку аблігацыяў.

Увага. За падлягаючых асабістаму прамысловаму падатку служачых у гандлёвых і прамысловых прадпрыемствах, аблігацыі здабываюцца гэтымі прадпрыемствамі за свой кошт.

**VI.** Пры выплаце дзяржаўнымі (у тым ліку комунальнымі) коопэратыўнымі и прыватнымі установамі і прадпрыемствамі, а гэтак сама прыватнымі асобамі сумаў, належачых па дагаворам падраду ці дастаўкі, утворанымі з прыватнымі прадпрыемствамі ці асобамі да выданьня гэтай пастановы і утвараемых пасьля яго выданьня, аж да адмены, 15 проц. сумы кожнай выплаты абавязкова выплачываюцца аблігацыямі 2-й выйграшнай пазыкі.

Пры выплаце ўзнагароджаньня па камісіённым даручэньням, прынятым прыватнымі прадпрыемствамі ці асобамі ад установаў, прадпрыемстваў ці асобаў, паказаных у першай часцы гэтага артыкулу, 20 проц. належачай сумы выплачываецца аблігацыямі 2-й выйграшнай пазыкі.

**VII.** У выпадках нявыкананьня падатку выплатчыкамі гэтай пастановы ў устаноўлены тэрмін з іх спаганяецца належачая сума у парадку, устаноўленым для спагнаньня падаткаў і збораў з устаноўленай пеняй.

**VIII.** Нарушэньне гэтай пастановы урадавымі асобамі дзяржаўных і коопэратыўных установаў і прадпрыемстваў, а гэтак сама й прыватнымі асобамі караецца водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік.

**IX.** З сумаў, якія паступаюць ад разьмяркаваньня 2-ой выйграшнай пазыкі ў абавязковым парадку, 10 проц. адлічваюцца ў прыбыткі мяйсцовых саветаў і 2 проц. ў загад савету народных камісараў гэтай саюзнай рэспублікі. Саветам народных камісараў саюзных рэспублік даецца устанаўліваць з паступленьняў па асобным аўтаномным рэспублікам, губэрням і краінам большы ці меньшы процант адлічэньня ў прыбыткі мяйсцовых саветаў з тым, каб агульная сума гэтых адлічэньняў па саюзнай рэспубліцы не перавысіла 10 проц. ад сумы пазыкі, рэалізаванай ў абавязковым парадку у гэтай саюзнай рэспубліцы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

15 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 89 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 17 красавіка 1924 г.

# Пастановы і загады Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**140. Аб перавозцы па льготнаму тарыфу дэмабілізаваных чырвонаармейцаў 1-га і 2-га конных карпусоў, прыраджэнцаў адыйшоўшых ад савецкіх рэспублік краінаў, камандыруемых органамі на однага камісарыяту працы на работу.**

1. Демабілізаваныя у 1922 і 1923 гг. чырвонаармейцы 1-га і 2-га конных карпусоў, прыраджэнцы адыйшоўшых ад савецкіх рэспублікаў краінаў, камандыруемыя органамі народнага камісарыяту працы на работу ў установы і прадпрыемствы Украінскае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі, перавозяцца па льготнаму, устаноўленаму дзеля пераезду рабочых у таварных вагонах чыгуначнаму тарыфу, г.-е. з скідкаю 75% з агульнага пасажырскага тарыфу на перазд у цьвёрдых вагонах.

2. Перавозяцца партыямі водлуг пасьведчаньняў органаў народнага камісарыяту працы па загаду якіх памянёныя дэмабілізаваныя чырвонаармейцы пасылаюцца на работу.

3. Перавозкі аплачваюцца установамі і прадпрыемствамі, якія даюць работу памянёным дэмабілізаваным з іх пэнсіі.

4. Расплата з народным камісарыятам шляхаў за памянёныя у гэтай пастанове перавозкі робіцца у працягу 3 месяцаў пасьля перавозкі.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
19 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

---

**141. Аб мерапрыемствах дзеля падрыхтоўкі Ніжэгародзкага кірмашу у 1924 годзе.**

Выслухаўшы даклад камісіі па унутранаму гандлю аб Ніжэгародзкім кірмашы, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Даручыць камісіі па ўнутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны зараз жа ўзяцца за распрацоўку пляну гандлю на Ніжэгароцкім кірмашы у 1924 г., біручы пад увагу неабходнасьць найбольшага залучэньня на кірмаш ўсходніх старон і краінных раёнаў Саюзу ССР, шырокага удзелу на кірмашы кустароў і іх арганізацыяў, а гэтак сама найбольшага росквіту сыр'ёвых апэрацыяў, якія робяцца на кірмашы.

2. Даручыць камісіі па ўнутранаму гандлю тэрмінова распрацаваць праэкт неабходных льготаў дзеля ніжэгароцкага кірмашу у 1924 г. і умоваў, забясьпечваючых правідловае іх ужываньне.

3. Даручыць народнаму камісарыяту шляхаў, сумесна з камісіяй па ўнутранаму гандлю, з мэтаю каб залучыць краінныя раёны, асабліва сыр'евыя, і усходнія староны на Ніжэгароцкі кірмаш, перагледзіць тарыф па воднаму транспарту, а гэтак сама умовы пабочных апэрацыяў, зьвязаных з перавозкаю па вадзе, у бок падзешаўленьня іх.

4. Даручыць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, сумесна з камісіяй па ўнутранаму гандлю, распрацаваць пытаньне аб крэдытаваньні на кірмашы апэрацыяў згодна ажыцьцяўленьню галоўных задачаў Ніжэгароцкага кірмашу.

5. Даручыць камісіі па унутранаму гандлю сумесна з народным камісарыятам заменжнага гандлю і расейскай усходняй гандлёвай палатаю, распрацаваць шэраг мерапрыемстваў, дапамагаючых шырокаму залучэньню на Ніжэгароцкі кірмаш у 1924 г. Персіі, Харэзьмы, Бухары і інш. усходніх старон.

6. Даручыць камісіі па ўнутранаму гандлю дзеля распрацоўкі усіх пытаньняў, зьвязаных з арганізацыяю Ніжэгароцкага кірмашу у 1924 г., залучаць, калі будзе неабходнасьць, усе зацікаўленыя ведамствы, установы і арганізацыі.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 58 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

**142. Аб забароне дзяржаўным гандлёвым і прамысловым органам прадаваць медзь без дазволу вышэйшага савету народнае гаспаларкі і народнага камісарыяту грашовых справаў.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Забараніць наўперад усім дзяржаўным гандлёвым і прамысловым органам, а гэтак сама і банкам, прадаваць без дазволу вышэйшага савету народнае гаспадаркі і народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР медзь, якую маюць яны у сваім загадзе.

2 Даручыць вышэйшаму савету народнае гаспадаркі і народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР выдаваць інструкцыі наконт ужываньня гэтае пастановы.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 82 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 красавіка 1924 г.

---

**143. Аб справаздачнасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, дзеючых на падставах камэрцыйнага разьлічэньня.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Усе дзяржаўныя прадпрыемствы, дзеючыя на падставах камэрцыйнага разьлічэньня, павінны складаць гадавыя балянсы да 1 кастрычніка кожнага году не пазьней 31 сьнежня таго ж году.

2. Балянсы з усімі матар'яламі, якія датычацца да іх, і справаздачамі павінны быць пададзены да тэрміну,

паказанаму у арт. 1, прадпрыемствамі агульнасаюзнага значаньня—у цэнтральныя органы народных камісарыятаў Саюзу ССР, да ведама якіх яны належаць, і адначасна у народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР (па кіраўніцтву дзяржаўнымі прыбыткамі); прадпрыемствамі знаходзячыміся у непасрэдным ведаму народных камісарыятаў саюзных рэспублік,—у гэтыя народныя камісарыяты і народныя камісарыяты грашовых справаў належных рэспублік, прадпрыемствамі мясцовага значаньня— ў належныя аддзелы губэрскіх (краінных) выканаўчых камітэтаў і належныя па грашовым справам аддзелы.

**3.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, народным камісарыятам грашовых справаў саюзных рэспублікаў і губэрскім (краінным) аддзелам грашовых справаў дасцца права вымагаць дадаткова ад прадпрыемстваў усе неабходныя дзеля праверкі балянсаў матар'ялы, веды і довады з справаздачаў.

**4.** У выключных выпадках працягнуць тэрмін, паказаны у арт. 1, дазваляецца водлуг згоды народнага камісарыяту або аддзелу губэрскага (краіннага) выканаўчага камітэту, у ведаму якога знаходзіцца прадпрыемства, з народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР, народным камісарыятам грашовых справаў належнае саюзнае рэспублікі або губэрскім (краінным) аддзелам грашовых справаў, водлуг належнасьці.

**5.** За непадачу у вызначаны тэрмін балянсаў і неабходных матар'ялаў да іх старшыні кіраўніцтваў (кіраўнікі) прадпрыемстваў і галоўныя бухгальтэры адпаведны водлуг належных артыкулаў карных кодэксаў рэспублік.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

10 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 62 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 сакавіка 1924 г.

## 144. Аб вызначэньні каштоўнасьці бюджэтнага набору.

У падатак да пастановы свае ад 29 лютага 1924 г. аб пераводзе заработнае платы на залатую валюту (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 108) Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Склад рэчаў бюджэтнага набору і парадак замены адных рэчаў другімі павінны устанаўлівацца, прымаючы пад увагу умовы кожнага раёну, і адпавядаць сапраўднаму спажываньню рабочых гэтага раёну.

**2.** Кіраваньне зьбіраньнем цэнаў ускладаецца на камісіі, утвараемыя пад старшынством прадстаўніка губэрскага (краіннага) выканаўчага камітэту, у складзе прадстаўнікоў губэрскага (краіннага) аддзелу грашовых справаў, губэрскага (краіннага) прафэсіянальнага савету і губэрскага (краіннага) аддзелу працы.

Увага. У тых раёнах, гдзе ровень цэнаў і правідловае падлічэньне іх маюць особна важную дзяржаўную значнасьць, пастановаю Савету і Абароны Саюзу ССР у склад камісіі можа быць назначан прадстаўнік Савету Працы і Абароны з правамі рашучага голасу.

**3.** Пры вызначэньні цэнаў камісіямі, памянёнымі у арт. 2, павінны прымацца пад увагу ня толькі цэны прыватнага рынку, але гэтак сама сапраўдныя паасобкавыя (розьнічныя) цэны дзяржаўных гандлёвых органаў і коопэратываў, пры чым адносна да коопэратыўных органаў належыць прымаць пад увагу скідкі, якія даюць яны сваім сябрам.

**4.** На камісіі, памянёныя у арт. 2, ускладваецца гэтак сама устанаўленьне дзеля сакавіка выпрацаваных на падставе з'іначаньня цэнаў адмысловых прыбавак на дарагавізну да галоўных ставак, устаноўленых у калектыўных дагаворах і пералічаных на залатую валюту, па устанўленым Саветам Працы і Абароны парытэтам.

**5.** Вырашэньні камісіі адносна вялічыні прыбавак на дарагавізну, прынятыя на падставах сабраных матар'ялах аб цэнах і каштоўнасьці набору, калі гэта прайшло аднагалосна у камісіі, зацьверджваюцца мясцовым губэрскім (краінным) выканаўчым камітэтам, а калі будуць спрэчкі ідуць з заключэньнем губэрскага (краіннага) выканаўчага камітэту на канчатковае вырашэньне камісіі, збудаванае пры Савеце Працы і Абароны Саюзу ССР у складзе старшыні, назначанага Саветам Працы і Абароны, і зацьверджваемых Саветам Працы і Абароны прадстаўнікоў народнага камісарыяту працы Саюзу ССР, ўсерасейскага цэнтральнага савету прафэсіянальных саюзаў, вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР і народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР.

**6.** Каштоўнасьць бюджэтнага набору вызначаецца на сярэдзіня лікі месяцу і агалошваецца у мясцовых газэтах не пазьней 20 числа.

*Нам. Старшыні СПА Саюза ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

11 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 60 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 12 сакавіка 1924 г.

## 145. Інструкцыя Савету Працы і Абароны Саюзу ССР камісіям па вылічэньню адмысловых прыбавак на дарагавізну на сакавік месяц.

**1.** Прыбаўкі на дарагавізну вызначаюцца камісіямі, згодна і ў парадку пастановы Савету Працы і Абароны ад 11 сакавіка гг. водлуг каштоўнасьці бюджэтнага набору, які вылічваецца наступным чынам.

**2.** У аснову вылічэньня каштоўнасьці набору павінны быць паложаны сярэднія паасобковыя (розьнічныя) цэны на 15, 16 і 17 числа месяцу на прыватным рынку, у дзяржаўных крамах і коопэратывах.

**3.** Склад набору і парадак зьбіраньня цэнаў вызначацца дзеючымі на конт гэтага інструкцыямі паміжведамсьцьвенае індэкснае камісіі, зацьверджанымі Саветам Працы і Абароны, агалошанымі у „Труде" №№ 257, 276, 278 1923 г. і №№ 36 і 58 1924 г., з наступнымі дадаткамі і з'іначаньнямі.

**4.** Каштоўнасьць набору вылічваецца па асобку: а) па рынычным цэнам і б) па цэнам коопэратываў і дзяржаўных крамаў, а затым з іх выводзіцца сярэдняя зважаная, прымаючы пад увагу ролю коопэратыўнага, дзяржаўнага і прыватнага гандлю у справе абслугоў-

ваньня рабочага насельніцтва таго райёну, дзеля якога вылічваецца надбаўка.

**5.** Пры вылічэньні каштоўнасьці набору прапануецца зьвярнуць асобную увагу на неабходнасьць замены, водлуг мясцовых умоваў, некаторых тавараў з складу набору іншымі, найбольш адпавядаючымі сапраўднаму спажываньню рабочых гэтага райёну. Гэткая падмена робіцца згодна п. п. 10 і 11 інструкцыі індэкснае камісіі („Труд" № 276, 278) і адпаведна п. 1 пастановы Савету Працы і Абароны ад 11 сакавіка г. г.

**6.** Рэгістрацыя коопэратыўных цэнаў робіцца у найбольш буйных па звароту (сродкаў) коопэратывах гэтага райёну з ліку раскінутых у рабочых кварталах або непасрэдна пры заводах, рудніках, промыслах. Цэны рэгіструюцца з звычайнымі скідкамі на гэты тавар, якія даюцца сябрам-пайшчыкам.

**7.** Рэгістрацыі у коопэратывах належаць толькі цэны тых тавараў, якія сапраўды знаходзяцца у прадажы і прадаюцца у межах сапраўднае патрэбы. Калі няма коопэратыўных цэнаў на некаторыя тавары з складу набору, яны рэгіструюцца у дзяржаўных крамах.

*Нам. старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**
15 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 146. Аб праверцы суадносін паміж фактычнаю купляючаю здольнасьцю залатога рубля і цьвёрдымі парытэтамі, устаноўленымі для пераводу запрацаванае платы на залатую валюту.

У дадатак да пастановы сваей ад 11 сакавіка 1924 году аб вызначэньні каштоўнасьці бюджэтнага набору (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 4, 142). Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Абавязаць мясцовыя камісіі па вызначэньню каштоўнасьці бюджэтнага набору зараз жа праверыць суадносіны паміж фактычнай купляючаю здольнасьцю залатога рубля і цьвёрдымі парытэтамі, устаноўленымі пастановаю Савету Працы і Абароны ад 1 сакавіка 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 109) для пераводу на залатую валюту ставак запрацаванае платы, прадгледжаных колектыўнымі дагаворамі у „таварных рублёх".

**2.** Абавязаць мясцовыя камісіі па вызначэньню каштоўнасьці бюджэтнага набору аб выніках паказанае у арт. 1 праверкі паведаміць Савету Працы і Абароны Союзу ССР па тэлеграфу не пазьней 17 сакавіка 1924 г.

*За Старшыню СПА Саюзу ССР* **А. Цуруоа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
15 сакавіка 1924 г. Москва—Крэмль.

---

## 147. Аб адмысловых надбаўках на дараговізну.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Устаноўленыя цэнтральнай камісіяй Савету Працы і Абароны па вылічэньню надбавак на дарагавізну, згодна інструкцыі Савету Працы і Абароны ад 15 сакавіка 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 4, арт. 144) надбаўкі на дарагавізну у 20% для Масквы і Ленінграду, роўна і адпаведныя надбаўкі на дарагавізну, якія будуць устаноўлены мясцовымі камісіямі, непасрэдна пашыраюцца, як абавязковыя, на тыя колектыўныя даговоры, па якім да 1 сакавіка 1924 г. была уведзена страхоўка устаноўленае у таварных рублёх запрацаванае платы, праз перавод у чырвоннае вылічэньне на дзень вызначэньня каштоўнасьці бюджэтнага набору.

**2.** Па тым колектыўным даговорам, па якім паказаная страхоўка ня была устаноўлена да 1 сакавіка 1924 г. выплата па 1 красавіка 1924 г. робіцца водлуг адмысловых улагоджаньняў з двух бакоў (профэсыянальных саюзаў і гаспадарчых органаў), па падставе захаваньня роўня рэальна выплачваючайся запрацаванае платы.

*За Старшыню СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
19 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 148. Аб дазваленьні вывазу пад'акцызных тавараў праз Кушкінскую мытніцу з пашышэрэньнем на іх льготаў, прадгледжаных арт. 1 пастановы УЦВК і СНК ад 11 студзеня 1923 г. аб мерах дапамогі экспорту.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць вываз праз Кушкінскую мытніцу III разраду абкладзеных акцызам тавараў з пашырэньнем на іх льготаў, прадгледжаных арт. 1 пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 11 студзеня 1923 г. аб мерах дапамогі экспорту (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 3, арт. 60).

*За Старшыня СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
19 сакавіка 1924 г. Масква - Крэмль.

---

## 149. Аб сплаве лесу у навігацыю 1924 г.

З прычыны асобнай тэрміновасьці сплаўнае працы, абумоўленай кароткім пэрыодом вясеньняга паводзьдзя, і неабходнасьці аб'яднанага кіраваньня сплавам лесу, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Усю арганізацыю сплаву дравясіны па водным шляхам Саюзу ССР у навігацыю 1924 г. ускласьці на вышэйшы савет народнае гаспадаркі РСФСР.

**2.** Парадак выпаўненьня сплаву устанаўліваецца палажэньнем аб сплаве лесу, выпрацоўваемым вышэйшым саветам народнае гаспадаркі РСФСР, водлуг згоды з народным камісарыятам шляхаў зносін і народным камісарыятам па ваенным і марскім справам, зацьвярджаемым Саветам Працы і Абароны.

**3.** Для разьвіцьця памянёнага у арт. 2 палажэньня аб сплаве лесу вышэйшы савет народнае гаспадаркі РСФСР павінен да пачатку сплаўнай опэрацыі 1924 г. выдаць, водлуг згоды з народным камісарыятам шляхаў зносін правілы сплаву, агульныя для ўсіх рэк і

адмысловыя для тых рэк, на якія агульныя правілы пашырацца ня могуць.

**4.** Кантроль за прыняцьцем належных мераў да ахераганьня інтэрэсаў судаходзтва, а таксама за выпаўненьнем правілаў сплаву на рэках судаходных і сплаўных у ты іх частках, дзе робіцца сплотка дравясіны для выпуску яе на транзіт, ускладаецца на судаходны нагляд народнага камісарыяту шляхаў зносін.

*За Старшыню СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 150. Аб трэцім выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму 25 мільенаў залатых рублёў.

З прычыны недахвату у разьменных грашовых знаках і неабходнасьці абмену транспартных сэртыфікатаў, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР, на падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 15 лютага 1924 г. аб выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 2, арт. 28) і у дадатак да пастановаў Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 5 лютага 1924 г. аб выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму 20.000.000 залатых рублёў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 2, арт. 58) і ад 22 лютага 1924 г. аб другім выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму 30.000.000 залатых рублёў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 102) **пастанаўляе:**

Дазволіць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР трэці выпуск дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму 25 мільёнаў залатых рублёў, заносячы у гэту суму, згодна арт 4 дэкрэту ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 22 лютага 1924 г. аб чаканцы і выпуску у зварот сярэбранае і меднае манеты савецкага узору, (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 61) таксама і выпуск памянёнай манеты ці замяняючых яе бонаў.

*За Старшыню СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 151. Аб з'іначаньні арт. 2 пастановы СПА ад 1 сакавіка 1923 г. аб цьвёрдых парытэтах для пераводу запрацаванае платы на залатую валюту.

Для з'інначаньня арт. 2 пастановы сваей ад 1 сакавіка 1924 г. аб цьвёрдых парытэтах для пераводу запрацаванае платы на залатую валюту (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 108) Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Аднясьці да 2-га поясу Ніжні-Ноўгарад з губэрняй і да 3-га поясу—гор. Екатэрынбург з губэрняй, гор. Бранск з губэрняй, Харкаўскую губэрню і гор. Царыцын.

*Нам. Старшыня СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
25 сакавіка 1924 г., Масква—Крэмль.
Агалошана у № 70 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 26 сакавіка 1924 г.

## 152. Аб забароне якіх-небудзь адлічэньняў у сродкі мясцовых саветаў з сумаў, выручаемых ад рэалізацыі у цэнтралізованым парадку маемасьці спыняючых сваю працу органаў харчаваньня.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Забараніць якія-небудзь адлічэньні у сродкі мясцовых саветаў з сумаў, выручаемых ад рэалізацыі у цэнтралізаваным парадку маемасьці спыняючых сваю працу органаў харчаваньня.

*За Старшыню СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
26 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 153. Аб дадатковым выпуску транспартных сэртіфікатаў.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць дадатковы, зьверх нормаў, устаноўленых пастановамі СПА ад 26 ліпеня, 23 лістападу і 8 сьнежня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 3, арт. 79 і № 9 арт. арт. 291 і 294), выпуск бясрпоцантных пазычковыя абавязацельстваў народнага камісарыяту шляхаў зносін (транспартных сэртыфікатаў) вартасьцю у 5 рублёў золатам на суму 9 (дзевяць) мільёнаў рублёў золатам, сэрыямі па аднаму мільёну рублёў кожная, на тых жа умовах, на якіх дазволен выпуск сэртыфікатаў пастановаю СПА ад 23 лістападу 1923 г.

*За Старшыню СПА Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
26 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 80 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 6 красавіка 1924 г.

## 154. Аб кроках да пашырэньня збыту данецкага апалу.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Адпаведна з пастановамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны аб расшырэньні збыту данецкага апалу, прызнаць неабходным устанаўленьне камісіяй па унутранаму гандлю прадажных цэнаў на данецкі апал, прадаваемы, з гарадзкіх складаў гандлёвымі арганізацыямі, і упарядкаваньне цэнаў у часцы, датычнай гандлёвых і накладных выдаткаў.

**2.** Абавязаць Донвугаль адпраўляць на вялікія адлегласьці (звыш 600 вёрстаў) апал ня ніжэй сярэдняе якасьці гэтага гатунку, з ускладаньнем на яго поўнае адпаведнасьці за якасьць дастаўляемага апалу.

**3.** Абавязаць тарыфны камітэт пры народным камісарыяту шляхаў зносін пераглядзець тарыфы на данецкі апал і з заключэньнем дзяржаўнае агульнаплянавае камісіі ўнясьці на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны не пазьней 1 красавіка 1924 г.

**4.** Абавязаць народны камісарыят шляхаў зносін давясьці велічыню раструскі вугля ў дарозе да нормаў даваеннага часу, г. ё. усярэднім ня вышэй $1^1/_2$%.

Ускласьці на народны камісарыят шляхаў зносін адпаведнасьць перад адтрымоўцамі за захаваньне паказанае нормы.

**5.** Зьнізіць процант абкладаньня параўнаўчым зборам агульных (звыш 100 пуд.) опэрацыяў па прадажы гандлёвымі арганізацыямі данецкага апалу са складаў да $^1/_2\%$ і да гэткай жа велічыні зьнізіць надбаўку да параўнаўчага збору, якая йдзе у прыбытак мясцовых саветаў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 155. Аб часовым затрыманьні пагрузкі данецкага апалу у парадку чарговасьці ў паўдзенным горнозаводнім районе.

Савет Працы і Абароны Саюза ССР **пастанаўляе:**

**1.** Часова наўперад аж да асобнага загаду, спыніць у паўдзённым горнозаводзкім районе пагрузку данецкага апалу ў парадку чарговасьці, прапанаваўшы цэнтральнаму камітэту па перавозкам ужываць да данецкага апалу асобны парадак, выкладзены ў „правілах перавозкі цьвёрдага мінэральнага апалу й гарназаводзкіх грузаў з паўдзённага горнозаводзкага району“.

**2.** Даць цэнтральнаму камітэту па перавозкам дапушчаць выключэньне з паказаннага ў арт. 1 абмежаваньня ў адносінах пагрузкі данецкага апалу, перавазімага ў паясох конкурэнцыі гужавога транспарту.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

4 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 85 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 12 красавіка 1924 г.

## 156. Аб зьніжэньні персанальных акладаў служачых дзяржаўных і коопэратыўных установаў і прадпремстваў і зьмешаных акцыанэрных таварыстваў з перавагай дзяржаўнага й коопэратыўнага капіталу.

Савет Працы й Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** З 1 красавіка 1924 году зьнізіць ня меньш, як на 20% усе пэрсанальные аклады (сьпецстаўкі), ў асобку, устаноўленыя па індывідуальным дагаворам у ва ўсіх дзяржаўных і коопэратыўных установах і прадпрыемствах і у акцыянэрных таварыствах з пераважаючым удзелам дзяржаўнага й коопэратыўнага капіталу, у тым ліку ў ва ўсіх крэдытных установах памянёных катэгорыяў.

**2.** У тых выпадках, калі пэрсанальныя аклады за красавік 1924 году выплачаны да агалашэньня гэтай пастановы, залішне выданыя сумы належаць звароту.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

5 красавіка 1294 году Масква—Крэмль.
Агалошана у № 80 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 6 красавіка 1924 года.

## 157. Аб чацьвертым выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму у 25 мільёнаў рублёў.

З мэтаю здавальненьня патрэбы звароту у дробных грашах і выкупу закаўкаскіх грашовых знакаў, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР, на падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 5 лютага 1924 г. аб выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 2, арт. 28) і ўдадатак да пастановаў СПА Саюзу ССР ад 5 лютага, 22 лютага і 21 сакавіка 1924 году аб выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 2, арт. 58, № 3, арт. 102 і № 4, арт. 150) **пастанаўлле:**

Дазволіць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР чацьверты выпуск дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму у 25 мільёнаў залатых рублёў, уключаючы у гэту суму, згодна арт. 4 дэкрэту ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 22 лютага 1924 г. аб чаканцы і выпуску у зварот сярэбранае і меднае манэты савецкага узору (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 3 арт. 61), гэтак сама і выпуск памянёнай манэты або замяняючых яе бонаў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраўнік Справамі СПА Саюзу ССР* **М. Хлоплянкін.**

9 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 97 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 красавіка 1924 г.



Главлит № 19050. Тираж 1.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий“ Издательства „Красная Новь“. Пименовская, 1/16.